# Данута Бічэль

# СНАПОК

*Выбраныя вершы*

Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1999

## *СНАПОК ВЯСКОВЫХ СЛОВАЎ*

---

Нарадзілася я ў вёсцы Біскупцы пад Лідай, якую па наіўнай звычцы называлі глухой. Але людзі расказвалі, што там, каля Міхайлаўкі, каля балота, засталося каменне падмурка былой сядзібы польскага паэта Антона Гарэцкага, паўстанца 1863 года. Зусім недалёка ад Ліды, у фальварку Пешчын, нарадзілася Алаіза Пашкевіч, Цётка, у нашай вёсцы пра гэта ведалі. З другога боку, за Нёманам, вырас Адам Міцкевіч — а мой бацька ў сваёй мужыцкай хаце меў яго кнігі! І брат Каруся Каганца, Амброзій Кастравіцкі, які прычыніўся да арганізацыі беларускага выдавецтва ў Кракаве ў канцы XIX ст. і друкавання кніг Францішка Багушэвіча, меў двор у 1925—1937 гадах зусім недалёка, у Белагрудах, адкуль паходзіла мая бабуля Кастуся.

А яшчэ недалёка Нача, дзе нарадзіўся акадэмік Марыян Фальскі, аўтар першага беларускага лемантара, які выдалі Каганец з Вацлавам Іваноўскім. І тая Лябёдка братоў Іваноўскіх таксама праз балота... А каля Уселюба малая вёска Устронь, адкуль паходзіць першая паэтка нашай зямлі Адэля, аўтарка паэмы «Мачаха».

У такой «глухмені» прайшло маё дзяцінства і дзявоцтва. На горцы паміж уласна Гаўяй і штучна пракапанай Гаўяй стаяў драўляны касцёл, куды першы раз завялі мяне мама і сястра,— яго спалілі. Але тая мясціна, дзе ён стаяў у квецені, у маіх каляровых снах з дзяцінства прыходзіць, як рай.

Строгі вясковы быт, калі доўгія будзённыя тыдні змяняліся святочнымі днямі з песнямі-малітвамі пад Крыжам на ўскрайку лесу, з ружанцам у вялікі пост, з валачобнымі вандроўкамі з хаты ў хату, з адпяваннем, якое дапамагала перанесці гора...

Вёска здолела перажыць доўгае бязбожніцтва, робячы выгляд, што яго нібыта няма зусім; дзякуй Богу, даярак і паляводак не выганялі са службы за тое, што хадзілі ў касцёл і ў царкву, бо нехта мусіў карміць начальства. Мае вершы жывіліся ўсім гэтым — хрысціянскай вясковай маральнасцю і вясковай упартасцю. Але тады слова «Бог» выкідаў з вершаў савецкі рэдактар.

Ды і так мне шанцавала ў жыцці на добрых. Недзе ў 70-х да мяне ў гродзенскую кватэру зайшоў мой зямляк, але каталіцкі паэт з Лодзі Мацей Юзаф Кананові́ч, які працаваў тады ў варшаўскім выдавецтве. Гэта быў выключна добры, пагодны і міласэрны сябра. Ён перакладаў мае вершы, друкаваў іх у польскай перыёдыцы, а потым выдаў зборнік «Ты То Ты» — 1980 год, Лодзь. Гэта мая найпрыгажэйшая кніжка. А каб не была я каталічкай, Кананові́ч мяне б не знайшоў.

Але найбольш на мяне паўплывала мая праваслаўная настаўніца Ларыса Геніюш, яе цудоўныя імпрэсіі пра Каляды, Вялікдзень, Жыровічы. Прайшоўшы пекла сталінскага канцлагера, яна засталася такой, якой яе памятала Наднямонне, і ўсімі дзеямі сваімі была нам прыкладам: бо адно — пра нешта чытаць, а зусім іншае — бачыць!..

Першыя два зборнікі — «Дзявочае сэрца» (1961), «Нёман ідзе» (1964) — мне ўкладаць дапамагалі; пісала я стыхійна, імпрэсіўна, на лясных і палявых сцяжынках, у завулках Ліды, Наваградка і Гародні — у гэтых гарадах я вучылася. Дарэчы, «Нёман ідзе» выцягнуў з чаргі ў выдавецтве Барадулін, а так бы ён не прыйшоў дагэтуль... У тое, што пісала, ніхто не ўмешваўся. Мне дапамагалі малітва і песня. Мой ранні настаўнік Васіль Быкаў працаваў тады ў «Гродненской правде» — ён увогуле не крытыкаваў і не разбіраў. Але часам мог пахваліць. Пазней напісала паэмку «Жыта» — Васіль прачытаў і сказаў так:

— У цябе была форма, як вядзёрка,— і ты насыпала туды сунічак. Атрымалася поўнае і з вяршком.

Ад такой пахвалы і хацелася пісаць.

Аляксей Карпюк крыху цвеліўся: «Ты ўсё пра кветачкі, ды пра кветачкі, ды яшчэ пра ягадкі... А калі ўжо пачнеш пісаць пра жыццё?!» А я адказвала, што тады, калі перапішу ўсе кветачкі і ягадкі,— і ад упартасці ў зборніку «Ты — гэта ты» напісала цэлы цыкл «Водар і шолах».

Гродзенскі педагагічны інстытут, дзе я вучылася, стаяў на вуліцы Элізы Ажэшкі, а пачаткоўцы збіраліся ў яе дома. Гэтая акалічнасць была вельмі важнай. «Жалезная пані» Эліза, якая цяпер ганарова ўзвышаецца над Гараднічанкай на сваёй вуліцы, была і застаецца маёй дарадчыцай і сяброўкай. У начных блуканнях прабівае маю адзіноту. Супастаўляю сваё жыццё і яе, у нашай жаноцкай долі шмат падабенства — толькі што яна была пані ад нараджэння і такой засталася. Часамі прашу яе: «Ці можна на твой п'едэстал на трэцяе месца? Другое пакінем каму-небудзь з наступнага стагоддзя...» — пастамент нагадвае ганаровую тумбу на спартыўных спаборніцтвах, дзе пераможцы атрымліваюць медалі.

І Алаіза Пашкевіч нарадзілася хоць і не зусім багатай, але пані, а раздзяляла з людам усю драму першай сусветнай вайны. І Ларыса Геніюш з багатай сям'і, а прайшла галодны і халодны ГУЛАГ — ужо на волі да канца жыцця так і не пазбавілася адчування голаду... А я нарадзілася ў найбяднейшага з усіх Біскупцаў Яські Бічаля, які пакахаў маю маму, не паслухаў бацькі, а купіў пясчанай зямлі на хутары Загасцінец пад сасновым борам на зароблены плытагонствам і парабкаўшчынай грошы, адмовіўшыся нават ад бясплатнага надзелу,— бо за светам! — які меў права атрымаць як ветэран вайны 1920 года ад Пілсудскага. Толькі і засталося з той вайны прыгожае апавяданне, як Пілсудскі пры аглядзе палка паправіў майму бацьку на нагах абмоткі... Пасля апошняй вайны суседка ўсё гразілася: «Пачакай, я яшчэ раскажу, каму ты служыў! Супраць каго ты ваяваў» і г. д. Тата памёр сваёю смерцю ў сваёй хаце ў 1975 годзе. І суседка тая памерла. А мы, дзякуй Богу, яшчэ жывём.

І ўслед за татам я жыву з адчуваннем бядноты, жабрацтва; ледзь зводзіла і зводжу канцы з канцамі, нічога не набыла, не прыдбала. Ці гэта сапраўды наканаванне ад Бога, ад продкаў? Ці гэта стан душы?

Адчуванне безвыходнасці, бездапаможнасці, абрыву — ступлю яшчэ крок і апынуся ў віры — штурхае мяне да паэзіі, як тапелец. Мяне крыўдзяць, абражаюць, ідуць па Гародні і глядзяць з пагардай людзі, якія калісь міла размаўлялі — ці толькі шчыра? — якім я нават дапамагала чым-кольвечы, ідуць і не пазнаюць, не вітаюцца: дзесьці я ім, напэўна, не дагадзіла, не даслужыла, а таму ператварылі мяне ў невідзімку на ўсё жыццё. Люмпены чамусьці ўпэўнены, што свет створаны толькі для іх, што ўсе і заўжды абавязаны ім дапамагаць і для таго жывуць.

Панямонская інтэлігенцыя! Колас тройчы меў рацыю!

Парадокс, але добра, што ў такі час і ў такім горадзе жыву — і без таго мала часу на творчасць. «Драбносткі жыцця мяне гоняць, як крыгу, сціскаюць і раняць...» І так гэтага тлуму зашмат...

Зборнікі «Запалянкі» (1967) і «Доля» (1972) напісала толькі з дапамогай вёскі, адна сямейная любоў і сваяцкія разборкі мяне натхнялі. А зборнік «Ты — гэта ты» (1976) гэта ўжо працяг літаратурных дыялогаў з Васілём Быкавым і Ларысай Геніюш. З Васілём ужо размаўлялі мы не ў рэдакцыі газеты і ўвогуле не ў пакоях, дзе «чуюць і бачаць праз дзірку ад ключа», але сустракаліся на беразе Нёмана, на вуліцах. Асабліва калі ён прыязджаў з Масковіі ды з іншых падарожжаў... Ужо звальнялі, прымушалі падпісваць групоўскія лісты альбо, што яшчэ горш, падпісвалі самі, толькі паведамлялі потым пісьменніку, што яго імя будзе там і там...

70-я гады ў маім жыцці былі адносна стабільнымі, роўнымі. Я ездзіла ў Зэльву кожнае лета, часам на колькі дзён, пісала падрабязна пра ўсё Ларысе Антонаўне Геніюш, і яна мне пісала. Сустракала ў яе хаце шмат людзей — і сярод іх адчувала сябе дужай. Іван Пятровіч Геніюш расказаў мне пра Беларускую На-

родную Рэспубліку, пра яе дзеячаў, пра Коўна, пра тое, як ён трапіў у Прагу. Шкада, што нічога нельга было запісваць на паперы, да таго ж Геніюшы ўва ўсіх бачылі шпіёнаў. А памяць у мяне бабская... Ды тады я абсалютна нічога не ведала, так што тыя аповеды засталіся на ўзроўні эмацыянальнага пачуцця,— аказваецца, школьная і вузаўская навукі наскрозь хлуслівыя, а сапраўдная гісторыя зусім другая...

Найболей значылі для мяне спатканні ў Зэльве з мастацтвазнаўцамі і аматарамі мастацтва, якія збіралі Музей старажытнага беларускага мастацтва. Галоўным здаваўся Юрка Хадыка, але пазней аказалася, што гэта ўсё ж Вольга Церашчатава, якую ўспамінаю ў малітвах сваіх памінальных,— моцная, прыгожая, гэта яна адчыніла мне дзверы ва ўтульны неафіцыйны Мінск. Гэта яна падсвядома дапамагла мне выбраць другую працу, калі ў школе настаўніцтва мне ўжо было не выцягнуць: гаварылі на «общепонятном», на перапынках мусіш пад іх падладжвацца, але я не паддавалася, яны вар'яцелі, а я заводзілася і г. д.

«Неудобная» настаўніца ў 1982 годзе знайшла з дапамогай Максіма Танка працу ў літаратурным аддзеле Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея — у Доме-музеі Максіма Багдановіча.

Я схавалася ў запушчаных трох пакойчыках на рагу вуліц 1 Мая і Максіма Багдановіча ад брудных ануч, якімі шпурлялі ў мяне вучні 9-й школы Гродна, ад іх матак, якія не маглі дараваць, што іх бяздарныя «чада» атрымваюць не адны пяцёркі па «этой вашей мове». Але і тут знайшліся выхавацелі і наглядчыкі. Калі 25 лютага 1983 года пахавала мужа ў Біскупцах, дырэктарка музея з супрацоўніцай абкама КПСС на мікрааўтобусе рабілі круг за кругам па дарогах вакол нашай хаты — каб паведаміць у абкам, як тут і што было! А пісьменнікам забаранялі ехаць на пахаванне...

У маёй адзіноце трымаў мяне Максім Багдановіч, яго магутныя, несмяротныя плечы. Брат. Апостал.

Максім. Не прызнаны, не кананізаваны ні царквой, ні касцёлам, ён, Святы, мяне мацаваў.

З Церашчатавай і яе камандай крыху паездзіла па Беларусі — Кушляны, Жупраны, Астравец. Начавалі ў палатках. Зборнік «Дзе ходзяць басанож» (1983) — вынік тых беспрытульных блуканняў па страце мужа і пошукаў адхлання на падаўжэлых дарогах, дзе я так стамлялася, але знаходзіла прытулак. Практычна кнігі «Дзе ходзяць басанож» і «Загасцінец» (1985) пісаліся ў адным настроі, не трэба было іх разбіваць. Гэта адна кніга. Але адразу не мела сілы дацягнуць яе да канца. Мне заўсёды бракавала сілы. І ўдавалася толькі тое, што выходзіла адразу, экспромтам, што пісала на бервяне за бацькавай адрынкай альбо пры святле месяца...

Дзе ад суніц гарэў узлеску схон,
заняты таямніцамі Антон
нёс прад сабою прыгаршчы суніц,
узлесак не хавае таямніц,
Францішак замаўляў лясную цішу...

У вершы «Зацішак» пішу нібыта пра жывых і смяротных мужчын, але хоць і былі прыгоды з прыгаршчамі суніц, гэта не зусім тое самае. Гэта апосталы, Антон і Францішак, перад якімі ачуняла... Нарадзілася ж я 3 снежня, у дзень нараджэння Францішка Ксаверыя, на чыю хвалу пабудаваны фарны касцёл у Гародні. А ў ім заўжды знаходзіла спакой, цішыню, натхненне. Калі касцёл быў зачынены, так хацелася проста пасядзець у цішыні на лаўцы, проста пабыць у ім. Такая моцная повязь праз стагоддзі была з Маім духоўным апекуном.

У фарным касцёле абраз Арханёла Міхала, абаронцы Беларусі і апекуна Максіма Багдановіча. Найчасцей яго малююць на ўзор Пагоні, толькі павернутага на ўсход, але ў нашым касцёле ён без каня: Анёл карае, забівае Чорта, а на твары — дабрыня...

Адзін раз адпачывала на цёплым моры ў Абхазіі з сям'ёй. Другі раз ужо сама пахадзіла па беразе халоднай Балтыкі. Пра гэта вершы ў зборніку «А на

Палессі» (1990). На цёплае мора баялася ехаць адна — каб не растапіцца ад суму ў гарачых праменнях. Я чытала розныя кніжкі па гісторыі і ездзіла па Беларусі. Напэўна, мае гістарычныя вершаваныя аповеды задоўгія, але мне самой было неабходна ўсё гэта перажыць і перадумаць. Трэба самой прайсці шлях продкаў — ад Полацка, дзе на беразе велічнай ракі стаіць Францішак Скарына, ад Лоева, дзе на крутым, зрэзаным стагоддзямі беразе пакінуў след мой першабытны прашчур, ад віленскай Вострай Брамы, дзе бласлаўляе жыццё Каралева Свету Марыя Дзева, ад Белага і Чорнага возераў, у якіх плавае Ніна Мацяш,— і да Свіцязі, дзе жывуць Міцкевічавы свіцязянкі. Самотна абышла кругом гэтага зачараванага возера, як заваявала яго. Мае Біскупцы агарнулі ўсю Беларусь...

А цяпер хочацца быць маленькай дзяўчынкай. Хочацца сесці пасярод гродзенскага бруку і гуляць з дзецьмі ў каменьчыкі. Як некалі ў пяску на родным Гасцінцы...

*Данута Бічэль*

3 мая 1994 года

## *ХАЦЕЛА Б УЖО ПАМЕРЦІ...*

*Хацела б ужо памерці*
*ад несправядлівага болю,*
*напеўшыся горкіх песень,*
*як перапёлка ў жыце,*
*хацела б, каб вы мелі сілы*
*абодва, Алесь і Віця,*
*занесці мяне з няволі*
*да адвечнае волі.*
*Хацела б, каб вы сабралі*
*мае вясковыя словы*
*ў сціплы польны снапок,*
*звязаўшы ссівелай ніткай —*
*з дужай рускаю мовай*
*ты ўтрымаешся, Віктар,*
*цябе ж, Алесь, даканае*
*тутэйшы свет бесталковы.*
*Як з-пад бязлікасці прэса*
*вылезлі вы, задзіры?!*
*На вашу непрычасанасць*
*паказваюць пальцамі збоку.*
*Я вас абодвух паклічу*
*на мове нашай Радзімы,*
*дзе ўсіх, нарэшце, сагрэе*
*цемры халоднае вока...*

## *ТУТ, НА РАДЗІМЕ...*

---

Кожны самотна пройдзе свой лёс
па вадзе — як Ісус Хрыстос.
З птахамі ўпрочкі не паляціш,
мусіш самотна несці свой крыж.

Шлях у нябёсы канчаецца тут.
Трэба адно зразумець:
хто паняверыць раззброены люд —
гэткіх не вызваліць смерць...

Праўды не ведаў, вядомай здавён,
хто прадаваў гэты Край!
Тут, на зямлі,— бессмяроцце і сон.
Тут, на Радзіме,— адхланне і рай...

## *БОЖА! ВАЗЬМІ НАС...*

---

Божа! Вазьмі нас пад крылле,
нашы нябёсы і гоні...
Іх жа суседзі душылі
трыста гадоў у прыгоне.

Край гэты вочы ўзнімае,
толькі надзея замгліцца...
Ворагаў шчыра прымае
чыстая наша зямліца.

Шмат іх прыняць яшчэ можа,
каб не паўсталі з магілы!
Ты ж разгарні над ёй, Божа,
вечныя белыя крылы.

Божа! Малю ў Цябе цуду:
вымеці ўсіх адным махам,
ворагаў нашага люду —
і маскалёў тых, і ляхаў...

## *БАЛАДА*

---

Думаў Божанька, думаў,
    звесіўшы ногі з хмаркі,
потым — замкнуліся ўдвух
    з Пазьняком Зянонам
і ў вялікім сакрэце
    рáдзіліся без чаркі.
З неба Зянон спусціўся
    стрымана-задумёны.
Цікавіліся ў Зянона
    і той, і той з экстрэмістаў:
можа, Бог справядлівы
    зробіць, каб нам было лепей,
можа, знікне Чарнобыль
    і Край адродзіцца чыстым
ці акіян знянацку
    перанясе пад Лепель?!
Толькі Пазьняк языком
    надарэмна не ляскаў —
распарадзіўся ўзяць
    у камуналцы падводу
і паехаў дасвеццем
    да вясковага плоту,
і знайшоў Матку Боску
    ў хаціне сялянскай.
І кажа: — Будзь пахвалёна!
    І хвала Сыну-Богу!
Ты ўзышла ў Вострай Браме,
    бароніш Жырову...
Як ягняты, шукаем
    да збаўлення дарогу —

Заступніца Беларусі,
абарані нашу мову!

Вось утвараюцца цуды —
скачуць белыя коні,
а Пазьняк з Чарадзея мечам...
А Матачка Боска
бел-чырвона-белай істужкай
залатыя ўпрыгожвае скроні,
Езусу апавядае
пра беларускае войска...

*1990*

## *У ВОСТРАЙ БРАМЕ*

Шляхі збягаюцца ў Вільню.
Не будзем дзяліцца болем,
пешкі ў Вострую Браму
пойдзем да свят.
На ўсходках Вострае Брамы
стаіць на каленях воля
прад Абразом Цудатворным —
не змог яе кат.
Сышліся чорныя хмары
і неба запаланілі.
Смяротны чарнобыльскі цмок
над светам лятаў.
Спіць Беларусь у магіле,
Літва заснула ў магіле,
паўвека спала ў магіле...
Ускрэсла Літва.
На вулках і пляцах — воля!
О, незалежная Вільня!
Вораг і Янка-дурань
за плотам точаць лязо:
па горле чужой касою
цябе сцебануць ім пільна...
Узброена ж воля ў Вільні
дзявочай касой.

*1990*

*АЛЕ ЎЖО!*

---

Маладыя кавалеры
    ціха ладзяць інструменты —
скрыпкі, флейты і сякеры,
    косы, пікі і багнэты.

Шчэ манкуртаў да халеры!
    Спяць ізгоі інсургенты.
Шчэ няма ніякай веры.
    Шчэ далёка давідна...

Але ўжо ў начной прасторы,
    бледным месяцам затканай,
стукачыць, імчыць палянай
    прывід волі, конь буланы!

Да душы даходзіць чутка,
    незалежнасці пабудка:
хутка, хутка, хутка, хутка...
    Хутка буду я адна.

Ды са мною Матка Боска!
    Абмініце дом наш, хлусы!
Калі толькі на імгненне
    не заснём апошні раз,
за Табою пойдзе войска
    незалежнай Беларусі,
выйграць, выйграць, выйграць мусім,
    а інакш не будзе нас!

Ноч стагодняя мінула,
сонца межы адамкнула,
з трэскам, грукатам і гулам
час паплыў, бы ў мора лёд,—
ты выходзіш на змаганне
у засмужанае ранне,
за табой вясны дыханне,
мой абуджаны народ!

## *АЛЕ НЯМА...*

---

Дасць Бог, у Беларусі незалежнай,
ад веснавога сонца разгуканай,
хадзіць, як спадарам, хадой няспешнай
нам паспрыяе доля нечакана.
Прачнуўшыся аднойчы не пад спудам,
убачым, што на небе мы — не ў яме.
Дасць Бог, супольна з беларускім людам
маліцца будзем у Хрыстовым Храме.

На мове мацярдушак і мацеек
паразумеемся — і самаед не пікне!
А той жаргон кашмарны Дземянцея
з экранаў, нібы скараценне, знікне.
Але няма людзей на Беларусі.
Дарэмна да грудзей тваіх тулюся —
і слухаю, як стукае няспынна
знявечаная, нічыя Айчына.

А нас, таленавітых, ганаровых,
свае ж сякуць бязлітасна пад корань.
Разумных, рызыкоўных, каляровых
правінцыя малюе ў шэры колер.
Па пёрку птахі скінуць нам не хутка,
каб увабраўся ў крылле люд бяскрылы.
Губляем талент па гнілых закутках
ды надрываем струджаныя жылы.

* * *

---

Я магла пажыць сабе раней,
стаць зацятай полькаю магла,—
не пусціла сонейка мяне
з-пад свайго тутэйшага крыла.

Я калісьці кволаю была,
як ніхто не цэліў з-за вугла,
а цяпер, як цэліць кожны гад,
мушу апярэдзіць акурат...

## *ТУТ*

---

Як па душах ішлі напралом —
не плацілі за ласку дабром!
Застаешся адзін за сталом
з растаптанай душой і са злом.

Ствол, як спаць, пад падушку вазьмі —
тут не праймеш скупымі слязьмі!
Пад тутэйшымі ходзім людзьмі,
толькі пасткі адны пад галлём.

Быў тут сябра — няма яго, знік.
А прыходзіць не ён, а двайнік:
мае спосаб на страшны разлік —
заплаціць за дабро адным злом...

## *БАЛАДА ПРА ГРОШЫ*

---

Прыстаюць браты з усходу:
— Ну, дык маеце свабоду!
Вам Еўропа дапаможа?!
У Маскве друкуюць грошы!

Прыстаюць з заходу сёстры:
— З неба твой сярпочак востры,
нам пшанічку жнуць анёлы —
аддавай палетак голы!

Пруць у сенцы морды немцы:
— Дом твой купім з патрахамі!
Будзеш зноўку ты ў ярэмцы
і «накормленая» намі!

Зверху цягнуцца і знізу:
— Мы адрэжам поля-хмызу!
Станем танкамі ў кустах —
нападзе на хамаў страх!

Не купіць вам, пустапасы,
Беларусі, што паўстала:
хоць складзіце грошы разам —
будзе вашых грошай мала!

Навастрылі мы алоўкі,
агрэсіўны выраз твару:
— Самі зробім сторублёўкі,
фунты, талеры, даляры!

## *ПРА ШАТЛАНДСКУЮ АЎЧАРКУ БОНУ*

---

Рай наш — бетонны, чыгунны.
У тэлефоне — свой цэнзар.
Дзяцел тут стукае чуйны:
столь прадзяўбе, як цэбар!

Тхне ад савецкай Гародні.
Лезе смурод ва ўсе дзіркі.
Бонік, худы і галодны,
зглумзіў з Друскенікаў ныркі...

Долю, як хлеба акраец,
не прывязеш з-за граніцы.
Ты мне паказваеш палец,
я табе — фігу ў спадніцы!

Што мы ад гадаў схавалі —
бач ты, аддай ім назад!
Самі вы збанкрутавалі —
як беларускі Урад!

Бульбу шарую на дранік —
лепш ужо пальцы скалечыць.
З'явіцца лёсу выгнаннік
з горшай, чым тут, халадзечы...

Выгляд ва ўсіх дурнаваты —
як у пабітым люстэрку.
Ды прыйдзе доктар стракаты
і прынясе паўлітэрку!

Крытык не кіне карыта,
дзікіх катоў сувязны...
Бонік — наш крытык!
Сутак хапае на сны.

Боніка мясам не купіш —
перажыла ж усе ўлады,
бачыла лівер і кукіш,
пасткі, драты і прылады.

Лепшы той знак Задыяка,
хто табе ткнецца ў калені.
Бонік — найлепшы сабака.
Розум, душа і сумленне.

## *НЯМА НАХАБСТВА*

---

За гандаль Беларуссю
не плоцяць нават мыта!
Нікому не сцінаюць
на пласе галавы!
Астрожскі і Сапега
і князь вялікі Вітаўт,
скажыце, як бяруцца
на родны Край правы!

На гандаль Беларуссю
шчэ не наклалі вета!
Прада́ўцаў прыкрывае
заезны зброд крылом!
Дапусцяць да карыта —
пахлістайце праз лета...
Дзе трэба даць па мордзе,
пакорна б'ём чалом!

Гандлюе Беларуссю
ўсялякае начальства,
купляе падхалімаў
і невукаў у штат —
а прадае ўсіх гуртам!
А ў нас няма нахабства,
каб тут загаварыў
дэсантны аўтамат!

## *З УСПАМІНАЎ ПРА ГАРОДНЮ 1990 ГОДА...*

---

Быў ціхі дворык у старыя сенцы.
У сенцы праз вакно налезла мухаў.
Збіраліся там толькі адраджэнцы —
хто сам сябе агітаваў і слухаў.

А з імі пані ў вышытай сукенцы,
і кожны паню зрэдку вокам кратаў,
але ніхто не кратаў за каленцы —
яны лічыліся за дэмакратаў.

Дурэў не той, хто лез і пёр без толку, —
а гэты, ціхі, лысы, жук вусаты,
які на вочы не трапляў натоўпу,
бо ў мітынгі крычалі дэпутаты!

Вісеў у шэрых сенцах белы коннік,
яго на пляц выносілі зрэдчасу,
ім прыкрывалі паламаны ўслонік,
бо нават цвік забіць не мелі часу!

Спрачаліся!.. Пакуль нагнала хмару —
за нейкія грахі альбо за кару
збірацца ім сказалі пад даглядам,
а коннік стаў наперад ехаць задам!

Кансалідацыя — і з гэтымі, і з тымі?!
Ніякія зрабіліся святымі...
Нясе свой крыж паміж рагоў алень.
І кожны, хто тут ёсць, дурны як пень...

## *НА ПАЛІГОНЕ. 1992 ГОД...*

---

Пан афіцэр стаіць за пляцам ззаду,
зашпільвае на спражку з зоркай пас...
«А як яны тут будуць без дагляду?» —
ён думае у клопаце пра нас.

А па атаве наш Пегас пасецца —
адпасвіўся за лета наш Пегас...
— А як гэта мы будзем без расейцаў?
І хто тут за расейцаў будзе ў нас?!

* * *

У нябёсы вяртацца пара.
А вышэй за нябёсы твае не ўзнялася.
Ні на горы тваім, ні на радасці не нажылася.
Як прынеслі, так панясуць — ні кала ні двара.

Непаваг на цябе не ўскладу.
Не разменьваю славы тваёй на дукаты.
Не цягаю багацця з засекаў грамадскіх дахаты.
І пароўну не трэба дзяліць. І сама не ўкраду.

## *У ВІШНЕВЕ*

---

Спее сонца. Шчырэе світанне.
Толькі ў Вішневе творыцца цуд.
Тут святар беларускі літанне
прамаўляе адзін за свой люд!

Ужо вырак на нас падпісаны!
Ужо знікнуць у цемры пара...
Але нітачкай з небам звязаны
грэшны люд праз свайго святара!

Ні багацця, ні славы, ні мовы,
да апошняй галечы дайшлі...
І не цямяць без веры галовы,
што адсюль адраджэнне душы.

## *ЦІХА Ў КУТОЧКУ*

---

«...да Тваe аховы звяртаюся,
Святая Божая Маці,
не цурайся просьбы ў маёй патрэбе,
зрабі ласку ўмацаваць маё цела,
каб выпрабаванне любоўю,
якое служка Твая жыццё мне даруе,
не разбурыла натуру маю даастатку,—
шкадаваннем параніць баюся
душу самой дасканаласці
сябра тутэйшага. Аман».

...сябра спіць у суседнім пакоі,
спрацаваны, у неспакоі.

Ён свой лёс паклаў непакорны
на алтар святой Беларусі.
Толькі я за яго малюся.

Твар яго раз'яснены, зорны,
маладыя маршчынкі, бровы
хай узніме сон цудатворны
да Тваe аховы.

## *МАЛІТВА ЗА МАРЫЮ*

---

Яшчэ разгорнем краіну-бранку —
як лекар кнігі старыя!
Гадуй, Марыя, дачушку Янку,
[illegible] вамі — Святая Марыя.

Між нас, жанчын, здараюцца людзі.
Будзьма, жанчыны, людзьмі.
Ты думаеш, шчасця болей не будзе
і Янка ўсе зоркі зацьміць?

Вярнуць пяшчоту адзінага ў свеце —
як выпрасіць Божую ласку.
Ды вы, Марыя з Янкай, жывеце
па-людску, а не па-бабску...

Навошта хавацца ад бацькі, а Пана
не шчасцем цешыць — слязамі?!
Але расці, таямніца Яна!
Святая Марыя з вамі.

* * *

---

Супынена дратаванне адмётнасці
ўладай савецкай!
Любіла сялянка-цётка
адметнае слова «цёнгле».
Молімся з польскім ксёндзам
прад Маткай Боскай Студэнцкай,
каб польскасць на «ўсходніх крэсах»
квітнела
толькі ў касцёле!

Польскаю мовай з Богам
праз ксёндза мушу змаўляцца,
але ў таемнай малітве
дома шапчу да пары
на мове роднай, якою
ажно захлынаюцца пляцы.
На ёй гарлаюць прамоўцы,
натоўпы і песняры.

## *ХЛОПЧЫК МАЛІТВУ СПЯВАЕ...*

---

Хлопчык малітву спявае
у местачковым касцёле.
З польскай мовай шукае
выйсця, наіўны анёле.

Ды не спрыяе Марыя
выжыць ніякаму люду,
Бог не ратуе, не крые:
ні дабрабыту, ні цуду...

Божа! Народу ўсё роўна,
ці брудны кран, ці крыніца,
хто падбярэ гэта Гродна
і на каго тут маліцца...

Чыстай палітыкай цягне
з вечнай зямлі Твайго Рыма,
моліцца ж, хто Цябе прагне,
моўчкі — адныма вачыма.

* * *

Не ўсіх дурных вайна пабіла,
не ўсіх дурных Чарнобыль з'еў —
яшчэ хапае тут дэбілаў:
абы наеліся — і ў хлеў!

Тут родны бацька кажа сыну:
— Маўчы, набраўшы ў рот вады!
Ну, паганяюць, як скаціну,—
абы пражыць свае гады!

Тут кажа маці да дачушкі:
— Хай дзеткі будуць, як і мы...
Расціце, парабкі і служкі,—
дурны, калекі і нямы!

* * *

---

Сонечны дождж на зямлю не трапляе,
слізгаецца па лістоце, як смоўж.
Зрэдку краплістая кропля страляе.
Сонейка свеціць. Стамляецца дождж...

Так бы й застацца галінкай зялёнай
тут, дзе прамень між галінак завіс!
Тут і стагоддзі губляюцца ў кронах,
не ападаючы з лісцем уніз...

Дождж сляпы... І я вочы заплюшчу,
як лесавінка, схаваюся ў мох,
ды назаўсёды ўвасоблюся ў пушчу,
з ёй уздыхну: сцеражы мяне, Бог...

## *МАЛІТВА ДА ТАТЫ*

---

Жыву я, татачка, добра.
Людзей паважна ўспрымаю.
Перамагла сваё даўняе гора.
Што трэба душы — не маю.

Калі патрапіў на Неба,
дзе шмат усяго мае Божа,—
то ўнуку для шчасця патрэбныя грошы.
А ўнучцы без долечкі нельга.

А мама з сястрыцай Рэняй
полюць туман каля вёскі...
Насыплеш праўнукам зорачак жменяй —
збіраць будуць, сыпаць слёзкі.

Жывеш ва ўспамінах, як ціхае свята.
Як вочы ўздымаюцца ўгору —
ты з роднага бору вяртаешся, тата,
і сонца вяртаецца з бору.

І я наіўна чакаю з Неба
татавага ўваскрашэння!
І мне ў жыцці нічога не трэба —
ні слёзаў, ні суцяшэння...

## *МАЛІТВА САМОТНАЙ*

---

У апраметнай цемры
шукаю капейкі меднай —
Ты бачыш грахі майго цела
і сорам ахвяры беднай.

Тлум выдумаў мне пакаранне —
пакутлівае каханне
ў адчаі, ў хваробе, ў скрусе...
А я да Цябе малюся!

Вымаўляючы Тваё Імя,
годна жыву між найгоршых —
пакінутая жывымі,
свабодная між памёршых.

Адпомсціць ніяк не збяруся
ў Тваім найшчырэйшым свеце...
Лішняя на Беларусі,
прашу Беларусі бяссмерця!

* * *

---

Людзі, узнятыя сілаю звыш,
сыдуцца разам з расстайных дарог,
кожны ў свой дол, кожны ў свой бок,
пад адзінокі — але Адзін Крыж.

Прагнем на момант сагрэцца душой
тут, між няпраўды і цеснаты,
    між дзвюх святыняў,
    між двух крыжоў,
    між двух агнёў —
то народы-браты...

Сябра адзіны, зацята маўчыш...
Што ж, памаўчы, патрывай, пагаруй.
Стогне пад крыжам уся Беларусь.
Толькі ці злучыць яе Трэці Крыж?

## *СТАРАЖЫТНЫ НАПЕЎ*

— Хопіць мне дакукі! —
жыта сеяў дзед.
— Лепш вазьму жалейку ў рукі,
павандрую ў свет.

— Рук чакае збожжа!
Кінь жалейку вон.
Гэта птаху спеў даў Божа,
як нябёсам звон.

— Ды без песні — плесня,
хоць ты мёртвым грай.
Песня з мёртвых уваскрэсне
і абудзіць край.

* * *

Качкі плаваюць па пары.
Над вадой гамоняць сосны.
Прыляцелі з поўдня хмары.
Прыпякае поўдзень млосны.

Свет шчыруе для заробку.
Нічыёй нідзе ахвяры.
Качкі плаваюць па пары.
Людзі гінуць паасобку.

## *НЕ ХАЧУ СПАЧУВАННЯ*

---

З дубу клёпкі, кляновае дзенца
не ўтрымаюць сярэбраны страх,
шнур, што чэрпаў з прадоння, парвецца —
паляціць у нябёсы, бы птах...

Не хачу спачування і жалю —
пад нябёсаў спрадвечную столь
проста з сумнага тлумнага балю
знікнуць з гонарам, Божа, дазволь.

## *НА ДОСВІТКУ*

На досвітку ад холаду дрыжыць,
бы кацянятка,
горад мой любы...

Як самаўпэўнена басуюць трубы!
Разводзяць рукі даўнія крыжы...

На старажытным камені прысядзь,
мая суседка, шчырая размова —
і скінь мундзір парадны Мураўёва,
і затуліся світкай Кастуся...

## *ПРОДКІ*

---

Здзірванелым аблогам драмалі вякі.
Збажыной засявалі аблог крывічы.
А вятрыска на восях ганяў ветракі
і скрыпеў:
— Кроўка-кроў, з крывічоў не цячы!

І гарбуля-каса, і сярпочак-вятлюк,
і саха, і клявец прырасталі да рук.
Ленаваўся ў край-бор бегчы сонны вяпрук.
Папялясты каняка — найлепшы сябрук.

Птушак з гліны і цеста выносілі ў гай,
каб вясніца прыйшла да сялянскіх акон,
быццам птаства ў вясны бракавала наўкол —
разлягаўся ў бязмернасці зладжаны грай.

У мужчын маладых за душой ні граша.
Каб каханыя вочы гарэлі ярчэй,
бісер колеру воч да зялёных вачэй,
па дзірхему за слёзку плаціла душа.

І каханне разбурвала родавы лад
ля Дняпра, каля Нёмана і за Дзвіной.
Але шмат чалавецтву нанесена страт
праз каханне мужчыны да жанчыны адной.

Дзе каханне, там рэўнасць. Святы недавер
да суперніцы-зброі — сякеры, касы.
Небяспека над краем: касец — касінер.
А якое расстанне без шчырай слязы?

Пакаленні мяняліся ў муках жанчын.
Паміж змроку і холаду доўгай зімы
зрэдку бліскала шчасце — маланка ўначы.
Прарастайма з маланак гарачыя мы!

## *КРЫЧАЎ*

---

І садралі шкуры са звяроў,
нацягнулі на маіх сяброў.
У дзяцей і матак на вачах
ганчакі загрызлі Карпача.

Ставілі крыжы на раздарожжы.
Хто канаў, таго тапілі ў Сожы.
На рацэ затор крывавых крыг.
Сож разліўся ад сяброў маіх.

Вешалі за рэбры на крукі.
Пад пазногці чорныя пруткі
заганялі, змочаныя ў серцы,
і падпальвалі. Мы грэлі сэрцы
змучанай няпраўдаю зямлі.
Нас знішчалі, знішчыць не змаглі.

«Пакараў» народ мяне па-свойску —
растварыўся ў ім — ды я не з воску.

І бабулі ўнукаў так вучылі:
— Як цябе спытаюць: бачыў, можа?
Ты адказвай: дзед і я — Вашчылы.
Тут Вашчыл, як рыбы ў тонях Сожа.

І дагэтуль мне не здрадзіў Крычаў.
— Ва-сі-лёк! Ва-шчыл-ка! — маці кліча.

* * *

---

Глядзіш з партрэта на мяне здаля,
як сыну, я кашулю-долю шыю...
Адкуль жа доля, як такую шыю
не рукі абнімаюць, а пятля?

Адкуль жа шчасце, як такія вусны
не зорка цалавала, а зямля?
Хай уваскрэсне тут народ наш мужны!
Народу ж не народзіш спакваля...

Кашулю шыла — долі не пашыла...
Радзіме смерцю даказаць любоў!
Сабе на шчасце кроў пульсуе ў жылах,
а на алтар праліць патрэбна кроў.

Пакуль па пругкіх жылах кроў цячэ
халодная — няма нам даравання.
Як здолееў ты падняць усіх дазвання,
ёсць вера: нехта здолее яшчэ...

Яшчэ не расцягнулі нас крукі!
Бульдозер гай з гасцінцам не раструшчыў!
І выйдзе хлопец з Белавежскай пушчы
ці з вёсачкі пушчанскае Грынкі,
і павядзе людзей на менскі пляц
пад нашым бел-чырвона-белым сцягам...
І не загінем! І не станем прахам...
Спяём Айчыне песню, а не плач!

## *ЯКУШОЎКА*

---

Якушоўка — супольнай сям'і нашай хата.
У скляпеннях падмуркаў вецер усхліпваў.
У Раманаўцах неба лягло вінавата
на прасаду Каліноўскага ліпаў.

Хочаш жыць шэсцьдзесят год —
пасадзіш таполю.
Два стагоддзі жыць хочаш —
пасадзі сабе ліпу.
З раскошай быльніку і куколю
ад беспрасвецця да куракліку.

Пад ліпамі — статкам здратаваны выган.
Ракі Калонкі папростаны выгін.
Зажураны вочы нябеснага схілу
над зглішчам супольнай нашай магілы.

Прыціснута сном наша доля, заклята.
Агонь нашу долю тут вось дагнаў...
Перакапалі. Каб вырасла хата —
ды хата не можа расці, як сасна...

## *МАСТАЎЛЯНЫ*

Сэрца народа паклалі ў дамоўку.
Думалі — сціхла, утаймавана...
Але жывое прабілася зноўку
цераз грудочак у Мастаўлянах!

## *ВЫБАР*

---

Лёс краю і твой закляты.
Не дапаможа бронь.
Выйдзі, хлапчына, з хаты...
Я, смерць, пацалую ў скронь.

Не рвіся, падумай добра,
ды не хавайся за печ.
Я, роднага краю доля,
дам табе ў рукі меч.

Аднойчы і назаўсёды
на ўдачу і на няўдачу
каханка твая — свабода —
я табе здраджу...

## *ЦЯБЕ Я ЎСПАМІНАЮ*

---

Адна ў заснежаным зімовым краю,
забытая, няма ў мяне нікога.
Быў ты, Кастусь, цябе я ўспамінаю,—
падобнага да Бога, маладога.

Пакораны народ не чуе болю,
не мае абароны, як святы.
Усё прайгралі і здалі без бою.
Згубілі Вільню і твае сляды...

Пайду па гэтай не сваёй сталіцы,
усім гуртом пакінута,— няхай...
Там буду ціха плакаць і маліцца,
а ты з нябёсаў хустачкай махай.

Ды мы не племя парабкаў — народ.
Узнімемся ў нябёсы дужым клінам!
Ускалыхнёмся сэрцам сакаліным!
Даволі наблукаліся ўразброд.

## *ВУЛКА ПАЎСТАННЯ*

Дасвеццем з-пад пакатае дахоўкі
падстрэхаўкі звястуюць навіну:
— У пятках, душы, пакідайце схоўкі!
На Котры косы клеплюць на вайну.

Дыханне стояць пушчы, даляглядь.
Грымотны грукат даляціць да зор.
Падружыць смерць паўстанцкія атрады —
зяўро гармат нацэлена ва ўпор.

За шыбеніцу будзе ўзнагарода —
Край ачышчальным болем заімгліць...
І грозны гул бязмоўнага народа
ўзарвецца пошчакам па ўсёй зямлі.

Таму, хто выйшаў са змагання дужым,
абніме шыю царская пятля.
Ды несмяротныя паўстанцаў душы
зноў пераселяцца у немаўлят.

## *ПТАХАМІ ПРОДКІ БЫЛІ*

---

Стогнуць стагоддзі.
Хто тут быў, той тут і застаўся.
Ніхто не прыходзіць, каб знікнуць,
а душам шмат мейсца не трэба.

Сны памятаюць пра тое,
што птахамі продкі былі,—
таму лётаю ў снах...

Прыгажосцю жанчыны мужчын паланяюць.
Сілай духоўнаю долю мяняюць.
Край наш трымаецца на апантаных.

## *СПАТКАННЕ Ў ПОЛАЦКУ*

---

Мы на пляцы спаткаліся. Крыху
пастаялі — ніякага следу.
Ён паехаў у Прагу па кнігу.
Я назад у Гародню паеду.

У краіне, дзе слова, што порах,
між напорыстых думак адна я.
Невідочнае заўтра і ўчора
бессмяроцце Скарыны яднае.

Супраць здзірства сабой пратэстую.
Супраць невукаў-ваяўнікоў,
што Скарынаву кнігу святую
запіхнулі між тоўшчы вякоў.

Але думак не скончыўся вырай...
Ў беларускай найпершай сталіцы
мне, смяротнай, хацелася шчыра
да Скарыны душой прытуліцца!

Памаўчаць ля Францішка Скарыны
у высокім, у месячным німбе
перад часам яго нескароным,
перад месяцам ясным на небе...

## *БАЛАДА ПОЛАЦКАГА ГАРАДЗІШЧА*

---

На старым гарадзішчы каля Палаты
не дзікун і ніякі татарын-мангол,
як прыслалі сватоў да Рагнеды браты,
мела права на выбар з дваіх аднаго...

Беларусь! Палачанкай глядзіш з-пад рукі.
Абцугамі цябе абнімаюць вякі.
Уздымаюцца замкі з дрымучых бароў.
А Няміга і Нёман, Дзвіна і Дняпро
свой пачатак бяруць не з адзіных пакут,
не ў адзінае сэрца ўпадаюць пакуль...

Але гора — не мора, хапае вакол.
Шчасце ўсенькае ўмесціцца ў дзеўчын прыпол.
Пачуццё закіпела, дык помсціць пачаў,—
як пазбавіў дзявоцтва ў бацькоў на вачах,
знішчыў бацьку і брата ў мяне на вачах.
Выбіраю няволю для ўсіх палачан!

Дзе пачне гаспадарыць няпрошаны госць,
дзе не род вызначае жанчыне цану,
выбіраю няволю, нянавісць, ману.
Патрываю ў самоце, схаваюся ў злосць.

Хай завяжніць мяне на рацэ Злыбядзе.
Не пачуюць чяляднікі кленчаў і слёз...
Уладзімір Алову з варагаў прывёз
і Малфрыду, Адэлю нікуды не дзеў.

Апроч жонак пасцельніц трымаў восемсот,
каб ішоў князеў род на расплод, не на звод...
Каб чужыну на часткі ірвалі сыны,
чатырох нарадзіла для братняй вайны.

Але помста затоена ў сэрцы на дне.
За бацькоў і зямлю сваю помста, як смоўж,
смокча, точыць душу: калі моцна засне
Красна Сонца Ўладзімір, пырнуць яму нож...

Ад жаночай рукі цвердаскуры не ўмёр.
Загадаў апрануць ёй святочны убор.
Сам паснедаць спяшаецца ў княжацкі двор,
а пасля абвяшчае прысуд-прыгавор...

Тут аднекуль з'яўляецца сын Ізяслаў,
кажа: «Думаеш, бацька, ты князь тут — адзін?»
Бацька: «Я не заўважыў, як вырас ты, сын!» —
і па звычцы расейскай усіх іх паслаў.

Князь, сын ключніцы, чуў, як бразгочуць замкі.
Змалку слухаць куванне зязюль не прывык.
Ад красы, ад якой бляknуць зор азяркі,
адмаўляецца сам, нібы спіты мужык...

Лепей воблік цнатлівай манашкі прыму,
чым гібець у блудлівым прыпынішчы зла.
Сын па долі і полацкі князь Ізяслаў
пабудуе Заслаўе — для маці турму.

Будзе праўнук на дзідах нябёсы трымаць.
Не закоціцца Полацка слава на спад.
Будзе вечна свяціцца Рагнеды імя
у стагоддзях на вуснах тутэйшых дзяўчат.

## *У ЛІДСКІМ ЗАМКУ*

---

Што ж тварылася ў Лідскім замку?
Тут чужынец грукаўся ў брамку.
Вежы замка ўзрывалі шведы,
лепш бы іх гэты край не ведаў.

Пералётны хан Тахтамыш
начаваў за мурам, як мыш,
і хапала сну яго войску,
але Вітаўт іх звёў на Ворсклу...

Сцены замка, як верныя служкі,
не лічылі смяротных страт,
як паставілі воі Касцюшкі
васемнаццаць вольных гармат...

Ад надворку і да скляпення
непарушна ў звяне ляглі
упрытык сотні тысяч каменняў
і мноства лёгкіх цаглін...

У Лідзейцы апырскваюць скроні
жаўрукі, што ўпалі з-пад хмар.
Абмялілі рачулку коні
крыжакоў і беглых татар.

## *БАТОРАВА ГОРКА*

Уціснуў пагорак між бору
горб, як адплату за здраду.
Некалі ставіў Баторый
тут на яцвягаў засаду.

Нібы на шкуру мядзведзя...
Так наганяў на іх страх.
Цэліўся, каб апярэдзіць,
быццам быў зверам яцвяг.

З раны крывавую струнку
не ўтаймаваўшы,каналі
і не прасілі ратунку...
Людзі былі дзікунамі.

Стрэлы гудзелі, як восы.
Сэрцы, як стрэлы-націны.
Шлях у зямлю, на нябёсы
ў долі яцвяжскай адзіны...

Колькі было тут ахвяраў!
Высахлі мова і завязь.
Поўныя Нёман і Нараў,
Чорная Ганча і Ятвязь...

Выйшла дзяўчына з-пад буры,
глянула ў вочы — яцвяжка,
дзікія вочы ў Батуры...
Кон ёй — што дыму зацяжка.

...Біўся для славы Кароны.
Кош разрываў ля фарпостаў.
Спешыўся безабаронны
перад дзявочаю помстай.

Бы паляўнічы распусны,
златаны — перад разутай,
пацалаваў яе вусны,—
памалявала атрутай...

Мужна палоніўся ў пастку.
Голаў кладзе ёй на рукі.
Быццам не ён выйграў княству
Полацк, Вялікія Лукі...

Быццам не князь гэты самы
з войскам у непагадзь мокнуў.
Згрукаў у Горадні замак
з залай шаснаццацівокнай.

Млын збудаваў і склад солі...
Вытрымаў жонку-няўклюду.
З ім панаехала голі —
з Польшчы і з Венгрыі люду...

У Батароўцы ў пасцелі
з п'яўкамі злымі на целе —
не ў ратнай бітве ад ран
ціха канае Сцяпан.

Дзеўка яго давяла
помстай за долю яцвяжцаў.
Дзесяць тут год ваяваў,
месяцаў сем, дзён дванаццаць.

Дзе яе позірк апёк,
дзе пачалася гаворка,
высіцца хмызу гарбок...
Баторава горка.

Пушча ў абдымках раллі.
Вёсак, мястэчкаў бярэмя.
Тут, дзе яцвягі жылі,
вырас народ з таго племя.

## *АРХЕОЛАГ*

---

Амаль сялянская доля.
— На цэлае лета прапаў!
— Вось толькі прыехаў з «поля»,
улетку ў полі капаў.

Вярнуўся ў запыленай куртачцы,
а ў башлыку на выгодзе,
як ракі ў кошыку, курчацца
і шамацяць стагоддзі.

Абступіць яго чародка
дапытлівых хлапчукоў,—
ён пэндзлікам, потым шчоткай
змятае пясок з чарапкоў.

Што яму ноччу сніцца —
жуковіна, завушніца,
хацінаў сляпых камяні,
што зніклі ў зыркім агні?

Дзівосны занятак які!
Ісці ў адваротным напрамку,
месцам дарыць іх замкі,
дарыць гарадзішчам вякі...

## *ВЯСЕЛЛЕ*

---

З Вільні ехаў жаніх у Кракаў.
Прымірыўся з Ягайлам Вітаўт.
А за войскам крук чорны кракаў,
за вясельнай вясёлай світай.

Шлях да Кракава з Вільні кароткі.
Жаніха апярэджвалі плёткі:
і брыдкі, і крывы, і варвар...
Апаганіць Эўропу, Вавель...

А жаніх прыехаў скароны:
надта ж прагнуў польскай кароны.
Лёгка кінуў пад ногі ляхам
жмудзь, Русь Белую і яцвягаў...

Нашы продкі на тым вяселлі
мёд пілі, марцыпаны елі...
Прапілі незалежнасць Літвы...
Як не прапілі галавы?..

## *БАРБАРА*

---

Як там было з каралевай Польшчы Барбарай?
Нападалі на закаханых зайздроснікі хмарай.
І кашталяна Вільні Рыгора Вяршылу...
І ваяводу Кракава заваражыла.
Ад усмешкі жанчыны прыгожай
палітыка зблытацца можа.

Нечуваны на свеце выпадак: сам князь і кароль
палюбіў і мужчынскае слова стрымаў перад ёй.
Але атруцілі яе, даканаў яе боль...
непасільным змаганнем за край непрыручаны
свой.

Пахавалі прыгожай... Праз адно пакаленне,
калі Юры Хадкевіч у Любліне стаў на калені
і Літоўскаму княству штылетам пырнулі пад
бок,—
нібы зноў далі выпіць атруты вядзьмаркі Апёк...

А лісты закаханых, пісаныя мовай лясоў,
захаваліся, іх перачытвае вучаны люд...

Можна ставіць гуртом на калені пыхлівых
паслоў.
Нельга ставіць гуртом на калені да скону нас
тут.

## *НЯЗГОДА*

---

Зноў з гарнастая каўнер апранаюць дамы́.
Цені, падцятыя цемрай, упалі на снег.
Любы, давай уцякаць ад халоднай зімы!
Толькі каханне тваё адагрэе мяне.

Цісне стагоддзяў цяжар на муры і на брук,
як абручамі сціскае — і нельга трываць.
Любы, напяты ў наш бок безвыходнасці лук —
сэрца разлучыць на дзве палавіны страла.

Змрочныя сцены і змроку каменны парог.
Пасмы святла прасачыліся з нетраў зямлі.
Напластаванні цямрэчы на плечы ляглі,
і не скрануць іх цяжару — лёс перамог.

Але ж не хочацца ноччу марознай канаць.
Крок са сцяны мураванай — прорва ў нябыт.
Любы, злаві з маладосці гнядога каня!
Хай уратуецца песня з-пад часу капыт!

Смерч наляцеў, але ўсё ж не спаліўся наш дом.
Душы спаліліся, і — кожны першы памёр.
Дзе тыя коні? Дзе любы і меч са шчытом?
Дзе наша доля? А песню спявае віхор...

## *НЕГЛЮБСКІ СТРОЙ*

Жаночы неглюбскі строй выяўляе сабой жанчыну як усясвет.

— На тым свеце нявема што будзіць, а тут жывем, красуімся, самавольнічаем...

*Ярына Тарасенка, 98 год*

Хусціна з наміткаю — сонца
з месяцам русым касы.
Зоркі-пацёркі і кікіцы —
у пояску кутасы.

Белае неба кашулі
«крыжам» ад шыі да ног
ўзорам ахоўных мядзведзяў
зачаравана па швох.

Перажагнаная тройчы,
каб не склялі, не ўраклі,
крацястае мора панёвы
падвязана паскам зямлі.

Збочце, галактыкі цемры!
Наша дыхнула зара.
Ў падданыя?! Не — на звыцяжства
рукі жанчына ўзняла!

З болю сусвет не ўмірае.
Чаму быць — тое вып'ем да дна.

На мірыяды распаўшыхся пар
лішняя долька адна...

Кветкай вясновай, нядзельнай,
прыбраная ў неглюбскі строй,
дачка Беларусі,
                    Надзея,
чаруе красой маладой.



## *КАШУЛЯ*

---

— Хочаш, вымыю кашулю,
адзінокі хлопец?
Станеш франтам і забудзеш
усялякі клопат.

Покуль сохне ды беліцца
кашуля,
хлопец горкую гарэліцу
каштуе.

— Хіба цяжка
кашулю мне выпраць?
— Хіба лёгка
дзяўчыну мне выбраць?

— Я і гузік на месца прышыю.
Як прыляжа каўнерык на шыю,
у рукавах сагрэюцца рукі,
пажвавеюць няўдалыя рухі...

Пойдзе ён па святочнай нядзелі
прытуляць да кашулі гэтай дзевак.
Закаханым прытворыцца міла.

Я кашулю за так хлопцу мыла...

## *ЧОРНЫЯ ЗОРЫ*

---

Тыя чорныя промні —
ім гарэць, не згарэць!
На імгненне прыпомню —
і аж сэрца замрэ!

Тыя чорныя зоры
з адценнем смугі
патанулі ў вачах
невядомых, другіх...

Толькі мару і сёння,
каб калі-нікалі
тыя вочы ў прадонне
мяне завялі...

Заўсміхаліся ветліва,
як даўней з-за гары,
тыя самыя дальнія,
тыя самыя светлыя,
тыя самыя чорныя
дзве зары...

* * *

Шаткавалі капусту двое,
а за вокнамі спела восень.
Стукаў ножык па дошцы часценька.
Усміхалася шчыра шчасцейка.

Усе асеннія колеры, пахі,
ў невялікі кадоўбчык ссыпалі,
у кляновы, жоўты, як сонца.
Напаследак падсыпалі солі.

А як чыста было на стале,
двое разам сабраліся ў лес
і хадзілі сцяжынамі роснымі,
выбіралі кіёк бярозавы.

Выбіралі кіёк па густу.
Маладых палянка лагодзіла.
Беразінкай праб'юць капусту,
каб з яе гарката выходзіла...

* * *

---

Ці цябе Красуля
пакалола рогам?
Ці табе красуня
перайшла дарогу?

Мо дадому ехаў,
асядлаўшы рэха,
ды віхуры ў лесе
смех увесь абтрэслі?

Можа, брыў цераз бради́
ды набраў у рот вады,
бо як сеў на ганку,
то маўчыш да ранку?!

* * *

Падарыць табе рэчку з жоўтым дном —
мурожным берагам, блакітным дахам,
лазовым кустам, пявучым птахам,
ліпнёвым сонечным буднім днём?

Навокал рэчкі спакой ляны...
На даляглядзе цвітуць ільны...
З другога краю натоўпы дрэў...
Пацешыў вочы і падабрэў...

Абы з табой — хоць скарынкі грызці...
Табе прыношу крыху спякоты...
А з абяцанак ці шмат карысці?
Абдурыш зноўку мяне...
— Ды што ты!

* * *

---

Новыя сані.
Лёгкія коні.
Сёння не сядзем —
значыць, ніколі.

Чаркі і словы,
сцежкі ўразлёт...
Біце, падковы,
звонкі лёд!

* * *

Не мары ты мяне зморам,
адпусці сініцу за мора.
Пакуль тут вятрыска, слота,
птушцы хочацца лётаць.

Хоць адзін разок залячу я
туды, дзе вясніца вякуе,
туды, дзе сонца святкуе.
Маладую журбу залячу...

## *КЛОПАТ*

---

Перакулю падушку,
як прысню цябе.
Думай аб жахах планеты,
аб трывожнай стральбе,
пакутуй за ўсіх калекаў,
лячы свету раны —
не адкідай маіх лекаў!
Зачараваны...

Я табой завалодаю,
не адпушчу.
Думаць будзеш аб тым,
аб чым я захачу:
на золку збудзіць расінка
натхнёнага салаўя,
запоўніць прорву маўчання
слязінка мая.
Ад самых пакутных думак
дам адпачыць табе...

А ты бажыўся,
не верыш бабулінай варажбе.

* * *

---

Трымайце ў вуснах талент дыпламата —
і словаў спачування не кажыце...

Я атрымаю ўсё, чаго я варта:
на даляглядзе бор, сцяжынку ў жыце.
Прадонне беспрасветнасці ў акне.
І дома — нібы ў дальняй старане.
І нават спачуванне абміне...
І ўсё пакуль наперадзе ў мяне...

## *ПАВЕТРАНЫ ЗАМАК*

---

Замшэлая паветка...
Успомніў даўніну:
з крышталікаў паветра
пабудаваў сцяну.

Ні трэскі, ні цавінкі.
Шматком ад хмаркі вымесці.
Пасцель пушынкай вымасціць.
Назад ні пуцявінкі.

Які каханы шчодры!
Паставіў стол, і вёдры,
і лесвіцу, і клямку,
як у сапраўдным замку!

Машынамі не ляскаў,
і не гудзелі краны.
Фантазія і ласка —
і замак змураваны.

У шчасці, у бядзе
займай любы паверх.
Каменны — ападзе.
Паветраны — навек.

## *ПРАЛЕСКІ*

---

Дзе раннія пралескі
грэлі гурбы,
ад сонейка прыжмурваючы веі,
упершыню адважыліся губы...

Магла адважыцца,
не даць ім веры?

Мы сталі смелымі
перад людзьмі і ветрам.
Дайшлі да згоды
з птушанём і зверам.

Кахаліся,
любілі дааастатку
сусвет
і кожнае цялятка ў статку.

## *КАВАЛЁК*

---

Як вясна вярнулася здалёк
у маўклівы куток вясковы,
мой сярэбраны кавалёк
абяцаў мне выкаваць падковы.

Завіхаўся кавалёк, не корпаўся.
Рэха сакатала ў свет няблізкі.
Галкі ў лужыне купаліся
ў Копысе.
Каля Нёмана дрыжалі пліскі.

Я прасіла шчыра: — Мой нялоўкі!
Радасны, пацешны, гаваркі!
Выкуй мне блакітныя падкоўкі,
каб заззялі, нібы дзве ракі.

Малаточкам ды па накаваленцы
грукае ад серады да пятніцы.
Грукае суботай і нядзеляй —
надта адмысловы ўзор зацеяў.

Мусіць, кавалёк перастараўся.
Пошчак на бярэзніку ад груку.
Ці падкоўка пстрыкнула на ясень?
Ці падковы цокнулі па бруку?

— Як жа, падкажы, няўдачу выправіць? —
ён слязіны сцалаваў са шчок.
— Як не ўмееш ты падкоўкі выкаваць,
выкуй мне свой ясны двайнічок...

* * *

Твая сяброўка — дарога —
гула ў разгойданым голлі,
грушай даўчэла ў горле.

Чаму я глянула строга?
Прайшла пацалункаў аскома,
з хлопцаў даўно не кпіла...

Знячэўку глянуўшы міла,
ахаладзіў, як Нёман.

Пабег да Шчыбы, да Шчары,
як чэрвеньскі вецер вясёлы,
па баравым абшары...

Сябры твайго лёсу — колы.

* * *

Ішоў вясёлы дожджык па шашы,
шліфуючы няўзнак
чарэшні, вішні.

І мы з табой няўзнак
на дожджык выйшлі...

І як ты, дожджык, мяне ссушыў.

* * *

Да цябе, як голлечка да сонца.
Горача малюся на зару.
Вусны зацалуй мае да донца.
Пакахаю. Восенню памру.

Нібы птушка, як пчала на кветках.
Ты да крэсу. Небыццё наш крэс.
Ветрык з нівы ў шэранькіх шкарпэтках
да мяне праз фортачку залез.

Зруйнаваў душы маёй пагоду.
Збунтаваў спакой, пазбавіў сну.
Сын усходу і дачка заходу,
паміж сэрцаў Беларусь адну.

Разам да апошняга дыхання
ў ельніку, на сонечнай мяжы...
Песні — дзеткі нашага кахання —
на яе прасторах будуць жыць.

Песні — дзеткі, словы — нашы ўнукі.
Спеў чароўны я не разбуру.
Да цябе працягваю я рукі,
абнімаюць рукі Беларусь.

Роднае празрыстае паветра.
Аж трымціць у целе і ўваччу.
Захварэлі безнадзейна, светла.
Я дык папраўляцца не хачу.

## *МЯСТЭЧКА*

---

Мястэчка, куды мяне закінуў лёс.
Не лёс... Мужчына мяне завёз,
які мне вочы засланіў тады,
каб адпусціць так лёгка назаўжды.

Мястэчка, схоў маёй слязы салёнай.
Там хлопчык бег па вуліцы зялёнай
з партфелем весела з канца ў канец,
за вухам красаваўся дзьмухавец.

На дзьмухаўцовым жывым каберцы
ля цэркаўкі драўлянай з пеўнем куры
пасціліся... Дыміўся ранак хмуры,
але бязвоблачна было на сэрцы.

Там кладачка выводзіла з лагчыны
мяшчанак, што смяяліся з мужчыны:
адкуль ён... Богу невядома чый.
А так марнуе сны мае ўначы.

Я не прызнаюся ні перад кім,
дзе, на якой слязіне Беларусі
мястэчка, у якое не збяруся...
Чаму ж так думаць хораша аб ім?

* * *

---

Любы, не шкадуй мяне так доўга.
Каб да сэрца сэрцам не прысох,
супыніўшы коніка гнядога,
адпусці на нёманскі пясок.

Вернешся гасцінцамі старымі —
церпкі і гарачы, бы віно.
Берагам, што мы з табой стварылі,
стромым і пяшчотным заадно...

З тумaноў даліначкі-даёнкі
напаі світальнага каня.
Нашых чыстых рэк разбег далёкі,
паміж іх — любоў, нібы канал...

Развітання золкае світанне.
Перад светам стоеным стаім.
Як маё з адчаю сэрца стане,
дык чыё затахкае з тваім?

А табе ж губляць нічога нельга.
Сам ты для знаходак, не для страт.
Ты як вецер, як прастор, як неба.
Ты, які мне трэба, акурат...

* * *

---

Ты сена б'еш у ёмкія пласты...
Табе на касавіцы не да смеху.
З твайго кутка не дакаціцца рэху
за трыста дзевяноста тры вярсты.

Настрой злінялым вераб'ём са стромы
балотнай лужыны
зрабіў нырца.
Няма калі дамоў забегчы,
Нёман
спяшае да найглыбшага канца...

І льецца воблакам светлагаловым
у два жывыя вадаспады рук...
Так неабходна пачуццё над словам,
цяпло вясны, каб заспяваў жаўрук.

* * *

Апынуся ў пашчы грому.
Прытаюся ў вушку хмаркі.
Вочы — шчырыя дзве чаркі —
раптам засцяць белы свет.

Раскрываюцца на ўсходзе,
як марылькі каля хаты.
Белы свет не вінаваты,
што душа — прадонне бед.

Сядзеш хмелікам высока
на здарожаную зёлку.
Каляровую вясёлку
выпівай нагбом да дна.

Саграваюць вочы-промні,
покуль схіл нябёсаў цёмны...
Забывай мяне, не помні,
як засвецяць вочы дня.

* * *

---

Калі даспела ў жніўня збожжа,
то красавацца зноў не зможа,
вядуць дарогі ў бездарожжа
і рэчкі да Дняпра і Сожа.

На чорны вечар — ані гроша,
дзень падыходзіць да падножжа
гары; і хочацца прыгожай
канцоўкі ў песні, як душа.

Тутэйшы, просты, не святоша,
а мне кахаць яго — раскоша!
І прыхамаць не пераможа
нічый заказ! Люблю, о Божа...

І вера, і цвёрдасць мая —
Калажа!
О, колькі крыжоў на тваіх раздарожжах!
Крышылі, палілі,
дратамі скручвалі,
а ты, як зямля,
была неўміручая...

Ты на заходзе як поўдзень сонечны.
Васьмівяковая.
І заўтра — сённяшняя.
Ніпто цябе з сэрца вырваць не зможа,
бяссмерце продкаў маіх —
Калажа!

* * *

Як жа спакусна жыццё пабяліць,
выслаць калдобіны
белым сувоем!
Як жа не проста застацца сабою!
Дзе вы, сябры, калі мне забаліць?!

## *ЗГУБА*

---

Здрадзіў таварыш...
А быў — хоць да болькі...
Спакойны, як сон маладзенькі...
Не бойкі
і не пусты,
не мякінай напханы...
Горай баліць,
чым як здрадзіць каханы.

Ні абяцанак,
ні клятваў,
ні путаў...
Як маладзік, знік за хмарку —
і пуста
стала на светлай прагаліне дня.
Цэбар маўчання —
ні вечка, ні дна...

* * *

---

Думкі мае паляцелі
за летам у вырай.
Між рэбраў мастоў
тахкае Нёман выдрай.

Цемра — на шлях.
Спудзіла цемру-птаху.
Размова з людзьмі
ад размовы з сабой
адцягнула б увагу.

У галаве крушэнне,
у галаве галалёд...
Некалі тата сказаў бы,
куды мне падацца:
ці ўбок адкласці задачку,
на саначках пакатацца,
ці пашукаць рашэння
ноч навылёт...

Некалі Нёман
прарочыў хады-дарогі.
Мог быць адказам камень,
што скінула круча пад ногі,—
нават не спудзіў думак,
іклы драпежна шчэраць...
Як мне цяпер?
Куды?
Пачаць спачатку яшчэ раз?

## *ЗАЦІШАК*

---

Дзе ад суніц гарэў узлеску схон,
заняты таямніцамі Антон
нёс прад сабою прыгаршчы суніц.
Узлесак не хавае таямніц.

Францішак замаўляў лясную цішу.
Наіўна з цішай раіўся Францішак:
вярнуцца зноў на ядзерны рэактар
або мастацтвам гартаваць характар...

Спакой даўно пастаўлены на кон.
Як сказ пра старажытныя часы,
разгадвае старыя абразы...
І развярэджвае душу Антон,
як задуменна стоіцца пахмуры
каля стагоддзем знішчанай скульптуры.

З малых гадоў настойліва, без спешкі
яны Радзіму абхадзілі пешкі
як валачобнікі ці музыканты.
Пасля паглыбіліся ў фаліянты.

Незамутнёнымі вачамі молада
глядзелі надпісы звана ў Моладаве.
Верш з эпітафіі, што ў Астраўцы.
Мастацтва ў Маларыце, Івянцы.

Стаіліся разгублена ў зацішку.
Аб родных цудах напісаць бы кніжку!
Ці бескарысна любавацца збоку?
Душа не напаказ любому воку.

## *ВІХОР*

---

На тое ён віхор —
з карэннем вырваў дуб.
Дно замуціў азёр.
Жарствы ўзвіхурыў слуп.

Зялёных мутных воч
з крыніцы не працёр.
Крычу: — З дарогі збоч!
— Не збочу, я ж віхор!

— Я — гнеў, я — пыл, праклён!
Пярэчыць мне дарма.
Знішчаць — такі мой кон.
Мне перашкод няма.
Стаілася з бядой
між сцежак і разор...
— Пагрэй мяне, віхор,
адзіны сябра мой...

## *ВОСЕНЬ*

---

Сплю спакойна.
Восень у маім спакоі.
Цішыня ледзь чутна ходзіць па пакоі.

Мой гадзіннік цікае прыглушаную ноту —
адзіноту, адзіноту,
адзіноту, адзіноту...

У грудзях маіх гадзіннік
сцішваецца болей —
адзіноту, адзіноту, адзіноту з болем...

На заходзе сонца я заходжу ў дрэвы.
На руках кляновых
сумна восень дрэмле.

Малявала пэндзлікам
на лістоце жылкі,
малявала вецер, лужынкі, сцяжынкі.

Колькі колераў, настрояў, пераходаў, зменаў...
Многа працы ў восені —
у мяне не меней.

Не магу рашыць задачу:
шмат ці не гадзін
чалавек бывае сам з сабой адзін?

## *У МЯСТЭЧКУ*

---

У мястэчку, дзе мошчаны брук
абмываецца стужкаю плёсу,
перада мной мой сябрук
паўстае, бы дарунак лёсу...

З думкамі, бы з зернямі колас,
ў самы час папулярнасці, ў модзе,
у семдзесят нейкім там годзе
ён паклікаў:
— Хадзі на мой голас!

Ён падумаў пра цемрыва, кладку —
голас выведзе з цемры па кладцы...
Я пра сцежку сваю ад пачатку:
павядзе і не дасць мне мыляцца...

Усміхнуся, як спомню прыгоду.
Крыху сорамна думаць пра тое:
зблытаць слугаванне народу
й нецярпенне маё маладое!

Маладою жанчынаю будучы,
каб пачуццяў пажар не патух,
спадзяюся на шчасце у будучым,
ачышчаю ўспамінамі дух...

* * *

Але не лёс нам вярнуцца
да простых людзей,
што намаўляюць на сэрца і розум ясноту,
прад невыноснай знямогай
спыняюць работу,
рана, каб толькі памерці, кладуцца ў пасцель.

Праца і шчырасць
там адны маюць правы,
вышай, чым школьную, бацькаву лічаць вучобу
і па-вучонаму не называюць хваробу —
кашаль, ці вольнасць,
ці так, заварот галавы...

І паміраюць там
не ад хвароб і бальніц —
мы ж папрывыклі змагацца не зброяй, распустай,
не ачышчаем сябе забаронай і пакутай —
сцежкі быллём зарастаюць
да родных крыніц...

Але ж выходзілі
некалі ў бор басанож!
Жахі расою змывалі і чулі, як зоркі
ў змроку прадоння плылі, свае чысцілі пёркі,
перамаўляючы з ветрам і з намі —
чаго ж?..

У募чараўніцы,
з якою да згоды дайшлі,

хто размаўляе апоўначы з цемрай, з вякамі,
так, як з плячэй або сэрца адвальвае камень,
зняць папрасілі б
каменне з уласнай душы.

Пеўні спыталі б на досвітку:
— Што ты не спіш?
Хочаш, прагонім з вачамі вялікімі страха?
То ж у гародзе распнута на крыж апранаха...

Там і на смерць,
як на курыцу, кажуць: — А-кыш!..

* * *

Высокая гара
расце між нізкіх гор.
Зблуканых лёсаў-зор
шукаць прыйшла пара.
Узняцца з глухаты
за мову, за народ.
Знайсці ў гняздзе бяды
жар-птушчына пяро.
Для ўсіх, што ўмерлі, слоў
дастаць жывой вады.
Ды ў выйгрышы заўжды —
хто вытварае зло.
Стэрэатып на злом —
не наталяцца злом!
Навучымся ў буслоў
прыносіць шчасце ў дом!
З няпраўдай на нажах
высокі дзень сустрэць,
ды не наводзіць жах,
але зарой гарэць.

## *ЖАНОЧАЕ*

Хіба я не сучасная жанчына?
А вось маёй адсталасці прычына —
прыёмны мой пакой,
мая дзяржава, кухня,
дзе пры цяпельцы ў дзежцы цеста пухне.

Я дзейнасць пачынаю на світанні.
Дарэчы, філасофскія пытанні,
ці траціць нервы на дзяцей і мужа,
не ўзнікнуць, покуль накарміць іх мушу.

Сяброўкамі лічу сястру і маму.
Сяброўкі па вучобе выйшлі замуж,
прапалі хто куды, звілі ўжо дзесьці
свае гняздзечкі — муж, кватэра, дзеці...

Рашучыя паходы ў магазіны!
Краечкам вуха я лаўлю навіны —
падзеі свету суадносна лёсу
маіх уладароў звонкагалосых.

Хваробы злыя шчэрацца па свеце.
З бяссілля сэрца абальецца сумам,
што плён палёў і рук маіх, і думак
ёсць замалы, каб не хварэлі дзеці...

На свет прыйшла я, каб карміць і песціць.
Напружаны заўсёды зрок і слых.
У самы радасны
і ў самы горкі міг
пачую голас: — Мама, дай паесці!..

## *НАСТРОЙ*

Ступіла ў чэрвені на звонкі мост,
забыўшы пра свае зямныя справы.
Перабягала з левага на правы.
На коніку драўляным
мяне мой ветрык нёс...

Усё было бадзёра, свежа, проста:
сады і стрэхі,
вежы, Нёман, прыстань.

Над верхавінамі мігцела кола.
Дзяўчаты, хлопчыкі каталіся вясёла.
Гайдаўся мост у такт бяздумным гулям.
І мой настрой лунаў над лёгкім гулам.

Работа клікала дамоў не з ласкаю.
Я ведала, што мільгане, як ластаўка,
якую вольты з провада сагналі,
настрой святочны, раптам знікне недзе.

Але спускаўся на веласіпедзе
да рэчкі сын і промнямі сігналіў...

## *ГАРОДНЯ*

---

Горад мой, бяссонніца мая!
Як жа не спяваць табе, скажы!
Свеціш майму Краю, як маяк,
на яго заходняе мяжы.

З плеч сваіх не сцёр па сёння ты
шэрых дзён, пажарышчаў сляды —
ды хачу я ў песні славіць тых,
хто цябе будуе маладым!

Родны, старажытны, малады,
сведка ўсіх маіх надзей і спраў...
Прагну я, каб гэтак і заўжды,
нібы сёння ноччу, ціха спаў.

Спі... А я і Нёман удваіх
пастаім на варце сноў тваіх...

## *ПРАГУЛКА З БОНКАЙ ПАД ДАЖДЖОМ*

Шчэрыцца з гушчы галля
гром ненажэрны, галодны.
Добра нам з Бонкай гуляць
па старажытнай Гародні.

Добра нам чыстыя вулкі
ніткай дажджу цыраваць.
Грому спякотныя вусны
будуць дамы цалаваць.

Дождж палівае, нібы з карца.
Бонка дае са стромы нырца.
У хованкі з громам гуляе маланка.
Неба стракатае, бы маляванка.

Вылезла Бонка з Нёмана плыні
ды страсянулася —
лівень зноў хлынуў!

Нёман, і горад, і дрэвы, і неба
ліўнем памыюцца да чыстаты.
Толькі патопу баяцца не трэба —
вельмі высока ў Гародні масты.

## *СНЕГ*

---

Закалыхалася — гуленькі-гушкі!
Сеюць муку нябачныя мельнікі.
Лётаюць, лётаюць лёгкія гускі —
і белалобыя і гуменнікі.

Хай ім не зведаць у выраі гора!
Званіце ім, ветры, ў кляновыя гуслечкі!
Гыля, ой, гыля, родныя гусачкі!
Перыйкаў следападае на горад...

## *САМОТА*

---

Жыццё самотнае — возера,
ні суток,
ні ўсчатку,
ні вызліву.
Застойнае.
Затамаванае.
Каламутнае возера з вязкім дном.
З засплынню на паверхні,
з зацвіллю.
Ды з мачарынамі навокала.
Ні збаночкаў, ні вочкаў, ні кубачкаў.
Хіба слёзнік,
з ведзьміных слёз, расце.
Хіба што ад буры ўсхвалюецца.
Церпнуць рукі, і спанывае душа.
Думкі самі сабой знураюцца.
І не асядае мута на дне.
І не вяне снапок сумоты-тугі.
І накметнік штоночы мярэсціцца.
Ніхто ў возеры тым не купаецца.
Заплыве недасілак — магутам стаў.
І не мёртвае возера — неасельнае.
І не хворае — невызгойнае.
І няўзмогі трываць глыбіню-багно.
І не высушыць — як жыццё.



---

Вусцішна раптам застацца
між снежнай ясноты!
Белым суквеццем абсыпаў яліны мароз.
Зорка радзімы і зорка маёй адзіноты —
грэе паўночная зорка на ўскрайку нябёс.

Сэрца ўначы з прадоннем тугі прымірыла.
Лечыць нянавісць, загойвае солад надзей.
Покуль дадому вярталася, пагаварыла
з яснымі зорамі, нібы з вачамі людзей.

Золкай пагодай шчырэлі пагоркі і долы.
Нібы мужчына, стаў ветлівым бор малады.
Колам за бор зачапіўся мой вечар вясёлы,
інеем глістым струсіліся з голля гады.

Шчэ засталося цяпла ад найлепшага маю,
не размяняла на холад душа дабрыні,
стомаю рук шарачковы сусвет абнімаю,
ані да кога зла не трымаю, ані.

Месячык ясны, вядзеш заблуканых па цемры,
што ж не асвеціш мой замутнёны пагляд?
Як здубянелыя ногі ступаюць на церні,
хай углядаюцца вочанькі зор-немаўлят.

## *ХМАРКІ МАЕ СЯБРОЎКІ*

---

Спелых жытоў пазалота
на незагойныя раны.
Луг для ласкі вачэй абраны.
Сцежка мая — адзінота.

Красак і промняў яснота.
Нёман у сонечным німбе.
Куды плыве па бяздонным небе
хмарка мая — адзінота?

Было сябровак няшмат,
цяпер нават кум і сват
адну абмінаюць мяне... А чаму так,
сябра мой — смутак?

Да кураводкі-хаціны
пад саламянае крылле,
да літасцівага сэрца Марылі
тулюся ў ліхія гадзіны...

Хто мяне зноўку верне
ад стомы, глушэння віны,
на вольную волю ў чатыры сцяны?
Праца — маё збавенне.

Адпетыя песні-кароўкі
з прадоння нап'юцца вады.
Вазьміце з сабою мяне хоць куды,
хмаркі — мае сяброўкі.

## *ВЕДАЮ ЎСЁ*

Ведаю ўсё і як быццам нічога.
Болем істоту запоўніла ўчора.
Шкода чужой мімалётнай навукі:
моцна трымацца, узяць сябе ў рукі.

Як утрымаць збунтаванае мора
пальцам слабым? Але не пратэстую.
Свет цэлы быць вінаватым не можа,
дык вінавачу дачушку, матулю.

Ноччу бяссоннай буру ўтаймую.
Зойдуць сябры — мала іх засталося.
У пасівелым гаёчку валосся
навідавоку ў сяброў не сумую.

Ды зацяжною гульнёй у маўчанне
звязаны, слова баімся пустога...
Шмат што сказалі, не скажам нічога.
Болем ачышчаны, лепшымі станем.

Рупнасць у нас неспадзеўкі разбудзіць,
часта пастукаўшы ў бубен палёгкі,
шротам дажджынак дождж касавокі...
Дождж сляпы. Дзеці мы — людзі.

Птахі мы — людзі, да голлечка промняў
цягнемся кволым даверлівым крыллем.
Хмараў галінкі сонца закрылі...
Болем знявечаны, болю не помнім.

Людзі — аблокі. Над выраем-краем
нас да магіл узвышае штосілы
з фрэскі азораны твар Ефрасінні.
Маем свой край і нічога не маем.

## *ЗАМЕСТ ЗАПАВЕТУ*

---

Мы адбіваемся адно ў адным.
Ён пачынае шлях — я шлях канчаю.
І клуначак расстанняў за плячамі,
жыццёвы страх развеяўся, як дым...
А Стаська шчэ не ведае аб ім.

Ён проста радасць давярае ножкам,
якія растапырвае знарок,
бо чаравік развязвае шнурок
і слізкі спод разгневаных дарог.
І зоркі ў пыл ссыпаюцца гарошкам.

Даверна сашчапілі дзве рукі,
нібы спрадвеку, пойдзем нацянькі
мы поруч — хоць у розныя бакі...
Ён — немаўлятка, але гаваркі.
Я прыслухаюся, мой час такі.

Любі, Стасюк, спрадвечную раку!
Натоліць смагу рыбцы і катку
і выб'е рытмы Нёман, як скакун.
З абрысамі барока і мадэрну
наш горад вечна будзе табе верным,
калі ты будзеш на яго баку.

Любі, Стасюк, людзей — і нават злых,
малых, слабых! Яны не вінаваты,
што пакалечылі сябе за шаты-страты,
не паважаючы сябе саміх...

Любі, Стасюк, свой край!
Хоць край — не рай...
Ды ўклад дзядоў ніхто не перайначыць,
твой дзед быў селянін, а не гультай —
і ты працуй, як дзед, а не іначай...

Не бойся адзіноты анідзе.
Не адзінокі ты — з табою продкі:
тут цені Каліноўскага і Цёткі,
князь Усяслаў, празваны Чарадзей.
Пра іх штодзённа помні — не на ўгодкі.

За рукі ўзяўшыся,
ты ўверх, я ўніз — хадзем!

* * *

---

Каля Нёмана жвір.
Чаркі зор замуціліся троху.
Конь мой —
дуб каля броду —
капытамі пачуе дарогу.

Акунуся ў слязу,
у таемную цемру дубровы.
Шчэ за ноч напасу
свой усход — вольны статак барвовы.

Бор — душа цішыні —
для стагоддзяў адчынены насцеж,
з лапак хмараў сыпні
вырай зор, гліцы словаў на шчасце.

Чую, міма ляцяць,
шалясцяць іх зіхоткія крыльцы.
І смычкі забыцця
тнуць па сэрцы маім — як па скрыпцы.

## *МОРА І СОНЦА САМОТЫ*

Як прыснілася ў сне —
каля мора на краі зямлі.
Беларусь ва ўяўленні бялей,
чым бялюткія кірлі.
Ходзяць кірлі галантна па водмелі,
нібы факіры,
кожным рухам крыла зачароўваюць:
— Сцішся, замры.

Растапляецца сонца самоты і ў мора цячэ.
Між самотай надзем'я і морам,
што гоіць падножжа,
я не бачыла прагных,
запоўненых палам, вачэй.
Маладое жаданне маё тут заглухне, дасць Божа.

Паміж двух даляглядаў, якія згараюць цяпер,
сонца ўтопіць у мора
свае незгасальныя мукі.
Знекуль сіла бярэцца
любое цярпенне цярпець,
прытуляць да адхлання сасмяглыя вусны і рукі.
І святочныя птахі
ў чародку сваю не бяруць.
І душа не баліць,
што навокал не родная мова,
і нікогачкі, каб развітацца ў начную пару.

Толькі ў сэрцы прыліў — Беларусь,
неабдымнае мора...

## *З ПАДСКОКАМ*

---

Крок у крок
і вочы ў вочы.
Трэба ж мора пераскочыць!
Пераскочу мора-долю —
толькі не ўцяку ад болю.
Не прычаліць чайка-чоўнік,
галава і хвосцік чорны.
Сіні ветрык скіне плашчык,
прывід светлы не прылашчыць.
Мора крача, бы качорка —
залатое з шэрым пёрка.
Словы-хвалі сінім роем —
наша мова, нібы мроя...
Срэбным хвосцікам вільнула,
срэбным грэбенем кальнула,
рыбкай-радасцю малою
уцякла...
Не мора злое.
Не скупіся, мора сіне,
падмацунку прынясі мне
дужым светам не праймацца,
з роднай мовай пратрымацца.

* * *

---

Хто ж гэта выплакаў
гэтулькі праведных слёз?
Хто ж майму сэрцу
слязінку адхлання прынёс?

Мора адхланне прынесла —
прылегла на плёс,
лапай камечачы косы мае,
што авёс.

Дубіцца скура
з цярпення,
з вятроў і дажджу.
Дома ж — не душы, каменне,
дамоў не хачу.

Тутака з морам сябрую —
свойскі мядзведзь.
Там трэба скуру двайную,
з латамі меднымі мець.

## *РАЗВІТАННЕ З МОРАМ*

З маладою чаіцай
праспявалі лета.
Вось яно канчаецца.
Узляцім адгэтуль.

Сілы многа ветранай,
і залішне людна.
Што гучала весела,
адгукнецца смутна.

Не зраднёных доляю
не зраднілі зоркі.
Памяць будзе доўгаю,
але прысмак горкі.

Ад прамення каліва
адагрэўся камень.
Гук падзення каменя
у прадонне кане.

На касцельнай вежы
звон адзвоніць нам.
Вечар перарэжа
мора напалам.

Бы журбы вядзерца,
мы насілі мора,
тулячы да сэрца
кожны сваё гора.

## *МУЗЫКА*

---

— Гэй, музыка!
Зможаш мне
на адной зайграць струне?
На вясновай баразне
ці на мачтавай сасне?
— А чаму ж бы й не!
— А на белай тапалінцы?
— А на тоненькай сцяблінцы?
— А на сонечнай пылінцы?
— Нават на сухой скарынцы.
— А на вострым частаколе?
— Гэтак мы іГралі ў школе.
— Выйдзе з дубчыка габой?
— Само сабой!
— А ці выведзеш напеў,
нібы сіверу павеў,
з беспрасветнае слязіны
надвячоркавай часіны?
— Так! І вымалюю ноты
беспатольнай адзіноты...
— А з нябёсаў гром-пярун?
— Можна, ды шкадую струн.
— А пра лютую вайну?
— Не... Хіба адну.
— А няспраўджанае штосьці...
Пра любоў, якая ёсць...
Ёсць. Прыходзіла... Няма...
— Гэта спела ты сама.

## *ХТО ПЕРШЫ*

Сінічка я,
але зракуся мерак
заніжаных,
мае высока стропы.

Ды жораў паляцеў
на дзікі бераг
раней, чым я,
і ён не збіўся з тропу.

Закрэслю ўзлёт.
Пачну жыццё нанова.
Страх праганю
і смех, даверны, свойскі.

Я адчыніла дзверы
ў хату слова —
на покуці дзяцюк
з той самай вёскі.

## *ШЛЯХ*

---

Каля прысад, сяліб
шляхі пралеглі ўдоўж,
увысь, ушыр, углыб
таемнасці гадоў.

Нелітасцівы лёс
і шчодры — не пярэчу —
нам падарыў сустрэчу
у засені бяроз.

Стагоддзі храбусцяць
праз небасхіл імглісты.
Кароткі шлях жыцця,
ды вельмі камяністы.

Па ім пайшоў Багрым
і Бурачок Мацей.
Знянацку мы згарым,
ды шлях не замяце.

За намі чысты след
і зорны небасхіл.
І не прадонне бед,
разгон вясновых крыл.

## *МАЦЕЙ БУРАЧОК*

---

У Жупранах звоняць званы.
Ашмянкі плынь халадзее.
На чатырох вараных
вязуць Бурачка Мацея.

Якая высокая сіла
асвечвае сумны абрад!
Сармацкі звычай ці сімвал?
Мужыцкі быў адвакат.

Ад Кушлян да Жупран
ціхія гоні ў скрусе.
З сялянскіх балесных ран
капае боль Беларусі.

На чатырох вараных
з чорнага шляху не збочыць.
А паабапал труны
гора аж слепіць вочы.

Колькі разбіў ён спробы
гора ўкінуць у лёх.
Чорнай хусцінкай жалобы
цень на пагоркі лёг.

Слёзы пад вейкамі шорсткімі
у дзецюкоў, бы ў дзяцей.
Стаў перад суддзямі жорсткімі
паверaным люду Мацей...

Скруціў ён сумную дудку,
балесна зайграў дудар
новаму свету пабудку
ад скляпенняў да хмар.

Сумленнем не пакрывіў.
У клетцы грудзей зацеснай
сэрцу не стала крыві —
яно захлынулася песняй.

Рванулася на прастор
шукаць новай праўды-спакусы.
Мацей Бурачок не памёр,
бо выжылі беларусы.

У душах сыноў, дачок,
ад веку памаладзелы,
едзе Мацей Бурачок
на конях памяці — белых.

* * *

Я ведаю не модную рамантыку:
зашыліцца ў куток, чытаць граматыку...
У цішыні гадоў маліцца слову.
Перабіраць на нітачцы радочкі,
бы ткалля ў нічальніцах «агурочкі» —
узор забыты...
Пачасы — у кошык.
Не павярхоўным словам ткаць аснову,
напружанай увагі варты пошук.

*БЕЛАЕ ВОЗЕРА,*
*НІНА МАЦЯШ*

---

Сяброўкі ручанька белая
кліча на возера Белае.
Надзея ў засмаленым чоўне
начуе на возеры Чорным.

Завушніцу-вясёлку-воселка
ад прадоння Чорнага возера
зачапіла, кліча да берага,
хто даплыў да сярэдзіны Белага...

Ад лазінкі святла летуценняў кругі.
Усміхнуцца і плаваць па тым і другім
навучылася ты — вучоная...
З чорнага ў белае,
з белага ў чорнае...

## *АДАМ МІЦКЕВІЧ*

---

«Дзяды» чытаю, нібы адпяваю
вясну, што з вёскі выехала ў горад,
наіўнай вёскай не ўталіўшы голад...
Вярэдзіць сэрца досвіткавы голас
матулі ці Адамавай Марылі...
Яго выгнаннем і мяне марылі,
бы ў вока мне ўляцела парушына...
Цялятка ў шкодзе:
— А куды, Гражы-на!
...Прабачце мне, блазноце, панібрацтва,
яно ад шанавання, ад сваяцтва.

...Балоты, непраходнасць, бездарожжа,
тутэйшых ніваў ільняная світка,
з карэння і хлудзін зялёных кошык,
напоўнены вадой крынічнай,— Світязь...
І стромы Нёман, і Плужанскі бор,
і мур Навагрaдка гаілі боль
Міцкевічаў
і падганялі бег
падзеяў, што суседзяў і калег
на два бакі раскідвалі парою...
Стаю між дрэваў, між якімі вецер,
гуляючы шурпатаю карою,
са мной пяе Міцкевічавым спевам:
— Літво! Ойчызно моя...

## *ПРАМЕННЕ ДЗЁН НА ВУЛІЦЫ АРЭШКІ*

---

З-пад яснага блакітнага застрэшка
час-вартаўнік штогод газоны стрыг.
На непрачытаных старонках кніг
прыгод чакала вуліца Арэшкі.

З карчмы «Раскошы» мела шмат набытку,
святочна пачыналася з карчмы,
выскоквалі з карчмы, як на падпітку,
з лабатымі фасадамі дамы.

Абцасік модны маладой Элізы
драўляных ходнікаў кранаўся ледзь.
Дзяўчаты выбягалі паглядзець,
а галубы ўзляталі на карнізы...

Ад вуліцы за Нёман беглі сцежкі...
Была спадыняй, адышла, як госць.
На зруйнаванай вуліцы Арэшкі
кудысьці знікла й наша маладосць.

## *РАКУЦЁЎШЧЫНА. 31 МАЯ 1987 ГОДА*

---

Хто нашу зямельку адновіць,
верне блакіту бязмеры?
Глядзіць у вочы Максім Багдановіч
вачамі зоркі Венеры.

Хто нашу мову замовіць
ад вуснаў злых, ад пустой вячэры?
Глядзіць у вочы Максім Багдановіч
з надзеяй зоркі Венеры.

Хто нашы душы заслоніць?
Хто дзецям дасць крыху веры?
Гарыць высока Максім Багдановіч
з высокай зоркі Венеры.

А пушчы гамоняць вяснова.
А зорак зімова маўчанне.
Між зор накрэсліў Максім Багдановіч:
— Біце ў сэрцы нам! Біце мячамі!..

## *ВАНДРОЎКА ПА ГАРОДНІ З УЛАДЗІМІРАМ КАРАТКЕВІЧАМ ВЯСНОЙ 1965 ГОДА*

— Ці памятаеш,
як нас запрасіла гісторыя
і мы сустрэліся ранкам
каля замка Баторыя?

На нас не зірнулі сфінксы
Аўгуста Трэцяга з брамы.
Падышлі да руін, прыселі
на скляпенняў строгія рамы.

Як быццам здалёк аднекуль,
з глыбінь таемных вякоў,
апошні ў семнаццатым веку
забіты рыкае тур...

Глядзелі на левы бераг.
Адтуль напор крыжакоў
плячом паваліў каменным
у Нёман магутны мур...

У фарным касцёле апосталы
пяты век гавораць на сходзе,
каторы з раскрытай кнігай —
да цябе падобны, Валодзя...

Ад вуліцы Каліноўскага —
чыстага бору струна.
Снуецца з Нёмана горад,
як нітка з верацяна...

## *ГАЛЬЯШ ЛЕЎЧЫК*

---

Пытанне з мінулага ў яву
вяртае, ледзь вочы заплюшчу:
чаму ён уцёк у Варшаву,
а не ў Налібоцкую пушчу?

...Чупрыны капа... З дабратою
на нас пазірае лагодны.
Лячуся яго прастатою.
Жыве яшчэ «Чыжык» ягоны.

Між часу ніякай заслоны.
Купала прыехаў у Слонім.
Заходзіць да сябра на каву...
Чаму ён уцёк у Варшаву?

Партрэт з маладой Зоськай Верас
перад вялікай стыхіяй,
калі гартавалася вера
у згублены край настальгіяй.

...У птахаў жыццё на скрыжалях.
Разбураны гнёзды без жалю.
На душы паэтаў аблава.
Згубіла без вестак Варшава.

## *ШЫПШЫНА ЯДВІГІНА Ш.*

---

Казачнік перад адлігай
куст пад вакном пасадзіў.
Цётачка з «важнаю фігай»
міма ішла ад суддзі.

Спіць Беларусь з надвячорка.
Плачам, бядой залілася.
Не загарэлася зорка
долі Луцэвіча Яся...

Ножкамі цэўкі сукае
купаліначка-немаўля.
Каля дзяўчат паблукае
і ўскалыхнецца здаля
звонкая скрыпка сцяжыны.
Болю крынічнае дно...

Досвітак белай шыпшыны
цешыў надзеяй вакно.

## *ЧАРАЎНІК*

---

*Янку Брылю*

Вясной на ранку
грэла сонца ярка,
сустрэўся чараўнік тутэйшы
Янка.
У рукі пужку,
пад ногі — шляху стужку,
апырсканую ў шчодрую расу...
Паслаў за статкам мяне, пастушку:
— Пільнуй, не пагубляй...

І я пасу.

Драбнюткай макулінкі не змарную.
Не дам ні слоўка
у зубы воўку.

Узяўшы за руку, нібы малую,
вядзе. І статак не спускае з вока.

## *БАРАДУЛЬНІК*

*Рыгору Барадуліну*

Паабяцаў стварыць ружовы лес,
ружовы смешны свет на схіле лета.
Мінаюць тыдні —
лес зялёны спрэс.
Цвіце шыпшына...
Дзякуй і за гэта.

Наабяцаў ружовых хмарак, ценяў,
сцяжын, а я паверыла... Ды годзе!
Вось зараніцы спелы сноп на ўсходзе
у перавясле светлых летуценняў.

Туман палі пакрые спакваля,
каб закаханым развітацца ўтульненька.
На сонечным сцябле расце зямля,
ружовая, як кветка барадульніка...

## *ПАЯСОК*

---

Перасыпаю сонечны пясок,
вучуся простай шчырасці ў Купалы.
На кросенцах, дзе гукі не ступалі,
сную, не дыхаючы, паясок.

* * *

---

І тут нікогачкі няма.
Прыступка кожная знаёма.
Заснуў і не цячэ амаль
да ўсіх замілаваны Нёман.

Да ўсіх шчаслівых, да мяне
замілаваны, не драбніцца...
Заснуў на роднай старане
і на Літве заснуў як быццам.

І не кранае ў сэрцы струн,
калыша сонныя аблокі,
заснуў, як спіць Алесь Гарун,
забыты ў Кракаве далёкім.

Нібыта спіць... Але цячэ
душой да акіяна-мора.
І мне душа баліць яшчэ,
душа стамілася ад гора.

Так прытулюся да Каложы
маёлікавай плiткай,
стаптаным каменем падножжа,
вясковаю намiткай...

## *ЦЁТКА*

На магіле ўзыду дубам,
Пачну шаптаць братнім губам
Аб іх долі, аб свабодзе,
Стану песняй у народзе!

*Цётка, 1906 г.*

У шчырым бары неспакой загаю —
засну, падклаўшы пад вуха
матчын прыпол — зямліцу маю,
падушку з гусінага пуху.

Там верасы пяючыя
сцішна атуляць вякамі
ногі мае бягучыя,
сэрца маё — камень.

Вецер сухі змые сляды,
вытра бяссілле з губ.
З сэрца — з жарствы, скаргі, жуды —
з каменя вырасце дуб.

Ступіць дзяўчына тут на зямлю
золкаю раніцай весняй...
— Я з таго дуба цымбалы раблю,
каб даіграць тваю песню,
Цётухна!

## *ЛЮДЗІ БЕЗ СМЕРЦІ*

*Васілю Быкаву*

Гэта —
зноў вяртаюцца ў строй
думкі, гнеў і гонар сяброў,
пасечаных куляй насмерць...
Абарваўся іх шчыры смех.

Як цяпер, стаяць у вачах
прад аглухлым скрываўленым раннем
з неадступным на вуснах пытаннем:
а ці маеш ты права маўчаць?..

Гаварыць —
не дужых пацешыць.
Зубы сцяць!
Як сябры маладыя хацелі
не халодных пліт ад жыцця!

Што ім помнікі на вякі!
На струхлелых касцях вянкі
не ажывяць магільных сноў.
Дакрануцца б да цёплай рукі.
На дасвецці збіраць васількі
на дрыготкай буйной збажыне...

Аж да столі гушкаць сыноў,
за якіх палеглі на вайне.
Гаварыць.
Лішніх слёз не ліць.

І памяць не любіць слёз...
Заклінаць, каб нашчадкаў зямлі
абмінуў непапраўны лёс.

Зноў вяртацца да сэрцаў мужных,
што пакрочылі строем у вечнасць:
ці прымалі яны двурушных?
Ці даруюць нам бессардэчнасць?

...не сагрэць магілу сырую.
Мёртвы воін не мае сэрца.
Мёртвы воін табе не даруе
здраду праўдзе і пасля смерці.

Маеш права на спогадзь, на жаль,
на ваганне, змаганне з сабой...
Кінуць лёс на лязо нажа...
Справядлівы адвечны бой.

## *ЗОСЬКА ВЕРАС*

---

Зоська Верас выходзіць з гнязда жаўрука,
а кавенька пільгрыма ў маленькіх руках.
І радзімае зеллечка ходнік ёй тчэ,
і нябёсы яе не прымаюць яшчэ...

Клеплюць косы спрадвечныя ў небе Касцы,
каб касіць на сутонні нябёс паплавы.
Каб звязаць у вузляк двух стагоддзяў канцы,
хто быў сябрам яе, той жывы...

Багдановіч Максім, і Гарэцкі Максім,
і Купала... Яна спатыкалася з ім...
Пан Ластоўскі яе да Варшавы паслаў,
нібы вольнай краіны пасла...

Правядзе адзінокіх да іх цемнаты
ды папросіць, каб неба ўзяло...
Паясочкам накры́ж пажагнае лісты
ды напіша пра ўсіх колькі слоў...

## *ЗАПРАШЭННЕ ДА ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ*

---

Жадаю, не сакрэт,
з табой без аніякае прычыны
на дзень ці два
паехаць да жанчыны,
якая ў нас адна на цэлы свет.

Ад страху адзіноты па начах
паставіла пад лаўкаю сякеру...
І духаў запрашае на вячэру!
Дух продкаў тоіцца ў яе вачах.

Заслана тканаю дзяружкай лава.
Там Багдановіч — найшчырэйшы госць.
На покуці Рагнеда і Прадслава.
І нам з табой таксама месца ёсць.

Хто слову служыць, там бываў не раз!
Да той жанчыны, мудрай і прыгожай,
даеду ў замець я, у бездарожжа...
Якая ёсць, з'яўлюся — без прыкрас.

## *ДОМІК МАКСІМА БАГДАНОВІЧА Ў ГАРОДНІ НА «НОВЫМ СВЕЦЕ»*

---

Новы Свет даўно не новы...
Побач — сад стары кляновы
На Малой Садовай вулцы,
вулцы, згорбленай бабульцы,
наш амаль вясковы домік,
як забытых вершаў томік,
як снапок валошкаў польных,
запрашае ўсіх бяздольных,
хто згубіўся ў часе нудным,
хто жыве жыццём няўклюдным,
хто ў натоўпе, нібы ў полі,
хто сяброў не меў ніколі —
запрашае абагрэцца
ля паэтавага сэрца!
За драўлянымі дзвярыма
неўміручы свет Максіма...

## *НА МАГІЛЕ МАРЫІ БАГДАНОВІЧ, МАЦІ ПАЭТА*

---

Апошнім
снег у вечным змроку тае,
дзе пахавана маці маладая.

Зямля
святым барвенкам зацвітае,
дзе пахавана маці маладая.

І чорных
птахаў вырай не ўзлятае,
дзе пахавана маці маладая.

І Маці-Беларусь,
і крыж пахілы,
і дзірванеюць могілкі, магілы...

*МАКСІМ БАГДАНОВІЧ*

---

Маленькі хлопчык, будучы паэт,
з Гародні едзе у няблізкі свет.
Сухота. Холад. Зацвіце здалёк
Радзіма, як блакітны васілёк.

Яна пакуль што ў мораку цвіла.
Няма на ёй ні шчасця, ні цяпла.
Але паэт, як добры чарадзей,
здалёк аддасць ёй жар сваіх грудзей,
ды знічкай скоціцца ў прыморскі кут,
каб вечным болем ачышчаць свой люд...

Каб у Радзіме адагрэтай той
ніхто не чуўся горкай сіратой.

## *СЫС*

---

Мінуў пісьменніцкі з'езд.
У наступ ідуць амазонкі.
А Сыс прапівае «Пан Лес» —
увесь, да апошняй сасонкі!

Пазьняк у Саветы палез.
У вёсцы няма самагонкі!
А Сыс прапівае «Пан Лес»,
увесь, да апошняй сасонкі...

Зачынены бар на рамонт —
грызіце, пісакі, гліну!
А Сыс не збаўляе понт!
І з ім запівае Чыгрынаў...

На пляцах — цярплівы люд.
А Данчык кліча за мора.
А Сыс прапівае тут
усё беспрасветнае гора.

Сыс заганяе за так,
наліўшы ў кіліх пілігрыма,
увесь папяровы бардак,
не тоячыся, без грыма.

На ўсіх нападае шыз,
расстрэльваюць нас не з абрэзу.
Ты вырубіўся, пан Сыс,
у Мінску — адзін сярод лесу...

Я вып'ю з табою, Сыс,
у хустцы вясковай кралі...
Не ўмееш глядзець уніз?!
А неба ў цябе пакралі...

* * *

---

Не кідайся зранку табурэткай —
лепей шчыра падзяліся чаркай.
Не хачу быць вольнаю паэткай,
а хачу быць простаю кухаркай.

Кіпцікі, сурвэткі, статуэткі.
Тут квітнеюць раннія махляркі.
Хлопцамі не цэняцца паэткі.
Ні з мяне паэткі, ні кухаркі.

## *АЎТАПАРТРЭТ*

---

Хто я такая? Жанчына.
Мяне прыдумала спёка.
Самота і смутак пазнання
на свет красы нарадзілі.
А лупавокія яшчаркі, тутэйшыя кракадзілы,
чараваць навучылі
пацягнута марывам вока.

Яшчэ не было гісторыі
ў мяне і ў маёй краіны,
ад якой суседкі-краіны
пакідалі толькі руіны,
як у зніклёнай кароны,—
князь Вітаўт яе не надзеў...
Як у паважнай матроны —
без датаў жыву, без падзей.

Каго любіла? Айчыну
з бурлівай быстрай ракою,
з ластаўкай гаваркою,
з лёсам крылатага бору.
Каго кваліла? Мужчыну,
прынёс мне шмат неспакою.
Мужчыну лёгкай хады,
задзірыстага гумору.

Зведала мукі любові,
пакуты чыстыя слова.
Ці шмат пакут? Дастаткова,
каб заглушыць уздыханне.

Каб заслужыць дараванне —
крыўдзіла невыпадкова...
Сабою магла красавацца,
як маладыя суседкі...
Звабіла доля паэткі.

## *ДАНУТКА-ВАР'ЯТКА*

---

Над вірам журботы
пакладзена кладка
з тваёй адзіноты,
Данутка-вар'ятка.

Ці ведаеш, хто ты?
Ды ты ж — не загадка.
Багачка духоўная ты
без нашчадка.

Цябе не праніжа
ні плётка, ні звадка,
ні чутка-аглядка,
ні братка, ні сватка.

Ні з маслам аладка.
Ні з пырніку градка.
Калядка?
Свой сум адламай ад аплатка.

Не згледзіш —
адчыніцца вечная хатка.
Спужалася?
Не са слабога дзесятка.

Складуць два анёлкі
дзве ручанькі ў столкі.
Шкадуюць?
А ты ж і не з іхняй суполкі!

У ціхім балоце
галодныя чэрці
пасеюць страхоцце
імя тваё смерці.

А рэбры расцягнуць
свавольныя дзеці.
А сонейка
на залаценькай карэце.

А той, хто да ўцёкаў
на досвітку шпаркі,
гаркоты глыне
з перапоўненай чаркі.

І зеллечкам здыме
з душы нават згадку —
забудзе Данутку,
Данутку-вар'ятку.

* * *

---

А чаму ж, паэта вольных
шчырых песень, чыстых душаў,
не прынёс каханай ружаў,
ні званочкаў, кветак польных?..

А таму, што за дукаты
прадаецца свет нікчэмны!
А паэта — не багаты,
не прызнаны, не багемны...

МАЕ НАІЎНЫЯ БАБСКІЯ ВЕРШЫ,
ЯКІХ НЕЛЬГА ПАПРАВІЦЬ,
НАПІСАНЫЯ Ў ТОЙ ЧАС,
ЯКІ ЎЖО НЕЛЬГА ПАПРАВІЦЬ,



СЯРОД ТАГО НАРОДА,
ЯКІ ТАКСАМА ПАПРАЎЛЯЦЬ ПОЗНА...

## *КАЛІ НІЧОГА НЕ ЗАСТАЛОСЯ*

---

Калі нічога ўжо не засталося,
калі жыццё, нарэшце, не ўдалося,
а што даў Бог, усё само звялося,
з чаго пачаць? — ужо на сцежцы восень...

лісток зваліўся, і паплыў лісток,
і кот Яцвяг ад гаспадаркі ўцёк,
і нават мышка збегла пад масток,—
палын і дым звяжу сабе ў снапок.

* * *

Зрабі мне маленькую ласку
прабай пра мяне казку,
назаві мяне ў казцы чароўнай
хоць Купалавай Бандароўнай.

Мне трэба, каб ты пахваліў...
Мне трэба, каб ты паквяліў...

Пачаў:
— Не глядзі ты вачыма
адной тутэйшай жанчыны...
Вось-вось заплакаць збяруся...
— Знаёмай маёй з Беларусі...
Што бровы, бы крылы ў чайкі,—
старадаўняй той крывічанкі...

Але што ж гэта за пахвалка,
калі нават я не Купалка,
не лідчанка, не біскупчанка,
а крывіначка-крывічанка?

## *НЕЧАГА*

---

Нечага, што
чысцей, чым слязіна жывічкі,
ад сутоння да сонцаўставання
нечага шукаючы,
прамачыла чаравічкі.
А чаго —
не ўяўляю дазвання.

Каля прызбы цвіце гардавіца —
высокая і ружовая.
Шчарбатае цэрла
відук перажоўвае.
Сумота ў вачах дваіцца.

Як свежай вясны,
такой навізны!
Пад ранняй зарой
будан навясны.
На мяжы здзіўлення
і захаплення
нечага,—
як пастава аленя.

* * *

Ускінуўшы рукі, як ветразі,
паплыву па засмяглым абшары
насустрач сварлівай, няветлівай,
плаксівай марудзіне-хмары.

Пальне як з вядра. Яліна
шурпатай карой абдыме,
зацягне ў дрымоту смаліную.
Хай дождж вакол елкі дыбае!

Буду ў прасторы волкай
вярцець скакалкай-вясёлкай.
Закіну яе на вольху,
пад душам халодным войкну.

Накрыўшыся золкай даллю,
шчасліва ў стагах замру.
Праз сон жураўлю загадаю:
«Хмаркай завесь зару!»

## *УРАЖАННЕ*

---

Ах, развярэдзіла
песня жалейкі...
Хто ад тутэйшасці зварыць мне лекі?
Трэба мне лекаў
ад Ведзьмаў і Шчараў
ды ратавацца ад цётчыных чараў.

Як гэта мне падняцца,
як вырасці
ад дабрыні, безлітоснасці, шчырасці?

Як захмялею ад водару мяты,
так размаўляю з магілкаю таты.

Зачаравалі мяне на зары.
Не паглядзела суседзяў зямлі.
Што ў іх за душы, якія ў іх вочы...

Сэрца ў мяне з казкаў дзявочых.
Вось жа натуру яцвяжскую маю —
нібы прыкута да роднага краю.

## *ДНЯПРО*

---

Недалужнаю чапляй
здалёк да цябе прыляцела
і паклала на хвалі
засмучаных словаў радкі.
І малая душа
у маім гэтак стомленым целе
ажыла, загаілася
шчырай любоўю ракі.

Я шукаю сяброў
у вясковай глушы і ў сталіцы,
каб запоўніць высокай размовай
халодныя дні.
Не знаходжу нікога нідзе,
акрамя мітусні...
Вось прыйшла да Дняпра,
каб спакоем яго наталіцца.

Аж да стомы вачэй
навакол наглядзецца спярша.
Прытуліцца да зрывістай стромы
шчакою вільготнай.
Тут душа беларуса
шчырэе ракой паўнаводнай
і рака перад небам шчырэе, нібыта душа...

І на вока відно,
што Дняпро мае нораў не скнары.
Хоць якою надзеяй
ты сэрца маё растрывож.

Абдымі мяне моцна
пяшчотнымі пальцамі старыц.
Акуні там, дзе два рукавы
аддае табе Сож.

Рызыкую над вірам
наіўнай дзяўчынкай малою
гушкануцца, ды ўспомніць пра маці,
спыніцца з дабром...
Зразумець рызыкоўнае выйсце:
прыехала ў Лоеў...
Разагналася з горачкі...
Замуж пайшла за Дняпро...

## *ПЕРАД НЁМАНАМ*

---

Дужым, высокім, відушчым
дробныя справы закрэсь,
выйдзі ты з вольнае пушчы —
вольны, як Нёман увесь.

Нёман нікому не па калена —
сам неаднойчы памераў ужо.
Прадзед ля Нёмана трушчыў каменне,
ды не з каменнай душой.

У крыгалом і ў сярэдзіне мая
ў шчырыя ночы і дні
Нёман прытокі-дзяўчат абнімае,
каб прыгажэлі яны.

Ціха ў сумётах духмянага сена
з людствам сам-насам пабудзь.
Нашы бабулі тут безыменна
нам калыханкі пяюць.

Тут на абрывістым беразе, з краю,
тут, дзе бузуюць ліні,
бачыш — стамлёная зорка згарае,
прагне душы, цеплыні.

## *БЕЛАЕ ВОЗЕРА*

---

Сэрца самой Беларусі —
возера Белае.
Лініі вен электрычных
пралеглі наўсцяж.
Тахкае гулка ў рэбры сасновага берага.
Белыя чайкі прыручаны Нінай Мацяш.

Стому, пярэпалах змый,
загаі і загушкай.
І сірату,
як дачку,
прыгарні да пляча.
Лёс нешчаслівых жанчын
трапяткой Драгабужкай,
нібы азёры,
самотныя душы злучаць.

Бераг палескі не будзе з-за нас засмучоны.
Стынем у леце лагодным, нібы на ляду.
Возеру Беламу
донарам-возерам Чорным
прагнем аддаць беспатольную сілу-ваду.

Прозелень хваляў,
настоеных церпка на зёлках,—
мусіць, што мы не замуцім
ні душ,
ні азёр,—
узнагародзіла шчодра вячэрняю зоркай
і прытуліла рукамі таго, хто памёр.

Белае возера
вечнасці вокам здалося.
Неба ўздыхнула —
усплёснуў хвастом белы кіт.
Так паляцець бы белаю чайкай у просінь!
Возерам Белым
з прадоння глядзець у блакіт.

Здарыцца неяк само...
І спяшаць туды нельга.
Вочы мінулага дрэмлюць глыбока на дне.
Белыя воблакі
хай праплываюць па небе.
Чорныя воблакі
хай патанаюць ва мне.

## ЧОРНАЕ ВОЗЕРА

---

Лета відовішчы мерала меркай.
Аднак вачам было мала.
Чорнае возера маляўнічай талеркай
млела каля высокага вала.

І на возеры хатка ў чароце стаяла.
Паляўнічы за качкамі з хаткі сачыў.
На світанні яго дубальтоўка страляла.
Але Чорнае возера тут ні пры чым.

Галышом разагнацца з пясчанага схілу —
і на дно — раздражненне, жуда, мітусня!
Хай завабіць сутонне гаючага ілу!
Ды і ў чорных азёр на душы чысціня.

## *ЗАПАЛІ АД МАЛАДЗІКА*

---

Ад святла
запаліла начнічку-грамнічку,
па забытай дарозе пайшла...

След у след,
нібы цень, без ніякай дамовы
вандраваў выпадковы сусед...

Ды паміж —
паміж іх падарожнік-трыпутнік,
бессмяротнік-сухотнік на крыж...

* * *

У зашклёнай вітрыне
стаіць муляж Скарынавай кнігі.
Скарына дамоў не вярнуўся.

## *ЦЕНЯМ КАСЦЮШКІ*

*Памяці Мацея Юзафа Канановіча*

Цень марачоўшчынскай
сведкі-таполі
ценем Касцюшкі
вандруе па полі.

На ўсходзе сонца
расой пакра́пае
прытулак сноў спрадвечных
у Кракаве.

Перад заходам
ціха прысядзе
на камень шэры
ў залескім садзе.

У самы поўдзень
нікуды не пойдзе —
сонейкам чыстым
гладзіць з нябёс
той панадворак,
дзе хлопчык рос...
Нібы ўгляда́еццa
з шэрых стагоддзяў
сам генерал
сусветнага войска
белым анёлам...
На ўсё воля Боска.

## *ЛІТАННЕ*

---

Святая зямліца продкаў,
застанься зямліцай нашчадкаў.

Замглёная Зорка Рагнеды
не была пасцельніцай здрайца.

Чарадзейны меч Усяслава
ўзнімаўся на ворагаў Краю.

Царкоўка святой Ефрасінні,
мацуй дзявочыя сэрцы.

Ясны месяц Скарыны,
асвяці нашу долю...

Высокі талент Янкі Купалы,
не пакрывайся пылам...

## *У ПОЛАЦКАЙ САФІЙЦЫ*

---

У Сафійцы граюць арганы,
слухае край курганны.
Рвецца музыка ў неба з акоў —
з высокіх святых муроў.

Народ прыгажэе ў горы,
прыціхлы, душой празоры.
Скінуў маску — цнатліва ранны.
У Сафійцы граюць арганы.
Рассыпаецца вырай гукаў,
нібы некалі стрэлы з лукаў.
Раптоўна сціхае гранне.
Мінулае лепшым не стане.

Спачываюць на клавішах рукі.
За вас, Чарадзеевы ўнукі,
нехта моліцца ў галубніцы,
у святой высокай Сафійцы...

## *ПРАЗАРОКІ*

---

*Светлай памяці Тамары Чабан*

За Нараччу вёска стаіць Празарокі.
Жывуць там касцы і паэты-прарокі.
Жыла там Тамара, мой крытык празоры.
Аб ёй мая памяць, бы ў краі азёры...

Жыве ў Празароках матуля Тамары,
па звычцы штодзённа запальвае ў печы.
І я тут кручуся, як вецер з-пад хмары,
і вершы складаю ў халоднай пустэчы.

Смяялася: — Крытык я твой кішанковы...
Хацела б і смерцю ўвесь свет не азмрочыць...
Захоўвае памяць банальныя словы...
Сардэчныя струны...
Тамарыны вочы...

## *СІМЯОН ПОЛАЦКІ*

---

Жыў-быў паэта, малітве аддany,
ціхі манах, міласэрдзем гарэў.
Ды закавалі паэта ў кайданы.
Скутым павезлі ў Масковію ў хлеў.

Там вершатворцам служыў пад наглядам
мовай чужою, ды сэрцам сваім.
Потым прапаў ён з усім маестатам:
вершы — у пыле, а слава — як дым.

Шмат пераездаў такіх адбылося.
Любяць служыць маскалям крывічы.
Лепей паэту спаліцца на стосе,
песню Радзіме сваёй пеючы.

## *ХАДЫКІ*

---

Алег і Юрка — файныя Хадыкі.
Сярод дзяўчат вучонасцю вядомы.
Я ж Уладзіміра чытаю томік
у баразне зацвіўшай бульбы-дымкі.

Як з дзіцянём, як са старэйшым братам,
з ім гутару праз ростань:
а ці варта
ісці да праўды, чыстай, бы сляза,
каб мне сцяжынку гэту паказаць?

Глядзіць мне ў вочы
з далечы гадоў...
Маршчын сцяжынка збягае ўдоўж
між броваў,
а наіўнасць у паглядзе...
Салома валасоў, якія гладзіць
жанчыне ўдосталь не давялося.
Але высокае жыццё ўдалося!

## *СІНІ КАМЕНЬ*

---

Сын лесніка
дзяўчыну сустрэў
каля просекі.
Быў на дзяўчыне
каптанік і паркаліку просценькі.

Першая жменя суніц,
гаворка вачэй.
Слухаюць двое —
зязюля кувае званчэй.

— Што гэта ў бор паглядаюць
журботныя вочы? —
бацька спытаў.—
Палясоўшчык —
то пасынак воўчы.
Пойдзеш за ім,
не чакай ад радзімы прывету...

Кажа:
— У лесе:
гняздзечка аўсянкі праверу.
Несла дзяўчына
паўз сонныя завадзі раскі
да запаветнай сцяжыны
надзею і ласку.

Несла па чэрвеньскім полі.
Каля рабінкі
бацька дачушку дагнаў
стрэлам тугім з карабінкі.

Выбег насустрач ляснік,
спяшаўся штосілы.
Там, дзе дагнаў яе стрэл,—
спіць камень сіні.

## *РОДНАЕ СЛОВА*

---

Пад казачным дубам над Нёманам сінім
хлапец прызнаваўся ў каханні дзяўчыне...
І рэхам той шэпт адгукаўся між гаю:
— Кахаю... кахаю... кахаю... кахаю...

Я чула пяшчотнае, шчырасці поўнае,
маё, беларускае, роднае, кроўнае...
такое сваё і такое чароўнае...
такое ласкавае, цёплае, чыстае,
як сонца, агніста, як Нёман, празрыстае,
бы казка-быліна, бы песня, жаданае,
дагэтуль яшчэ ў жыцці не спазнанае,
вясновае слова ад шчырага сэрца...
Яно празвінела над хвалямі ў рэчцы.
Вятрыска шаптаў яго з лісцем між гаю —
кахаю, кахаю... кахаю, кахаю...
Шапталі яго сенажаць і дуброва —
пачутае сэрцам, а некаму нова,
адзінае, дзіўнае, светлае слова...

Кахаю... Люблю...
Беларускаму краю
бясконца я слова «люблю» паўтараю.
Калоссям жытнёвым, зялёнай дуброве
кажу гэта слова на матчынай мове.

*1957 г.*

## *ПАЛЕССЕ*

Як на шчацэ радзімка,
сітнік у жыце... Пагрэюся
сумам, самотай Радзімы,
сітнай зямелькай —
Палессем.

Смагу любві натоліць,
шэрым імхом загладзіць...
Хочацца пешкі адолець
купіну на даляглядзе.

Ветлівы край жураўліны...
Хаты ў калысках бусловых.
Кіслыя тут журавіны.
Тут самабытныя словы.

## *ЗЫБКІ*

---

Нашы вёскі пастарэлі.
Не калышуцца арэлі.

Не скрыпяць аб гакі зыбкі...
— Сумна вам, бабулькі-рыбкі?
— Сумна нам, дачушкі-ліскі...
То не хата без калыскі,
без хрысцінаў, без адведак.
Край без дзетак — май без кветак.

* * *

---

Ад світальных пагрэюся зораў.
Закалыша мяне сасна.
Каля ціхіх крынічных азёраў,
як вярбіна, паплачу адна.

Чары, асветленыя ветахам,
чарамі запоўненыя з верхам
так глыбока і так таемна,
што над імі плакаць прыемна.

Вось рассыпала словы па долі...
Пазбіраю сунічкі ў збанок...
Лугавыя рамонкі ў вянок...
І паплачу адна без патолі.

* * *

---

Гарадзішча —
стагоддзяў прытужаных
жальнік.

Пустыш
без найменных магіл.

Вецер —
прыходзень,
жальбы прыглушальнік...

Слязінка
згарнулася ў пыл.

## *ВЕРА*

---

Захавай, Белавежская пушча,
Кастуся Каліноўскага сцежкі,
каб і зубр яго след не раструшчыў,
каб раслі тут зялёныя стрэшкі.

Чарадзейнай валодаюць сілай
лекі зёлак тутэйшага поля.
Над магілай вялікага сына
узыходзіць высокая доля.

Шчэ мы дойдзем да ўласнай навукі.
З-пад павек яго позіркам глянем.
Падрастуць Каліноўскага ўнукі —
сакавік іх напоіць змаганнем.

## *ЖУПРАНЫ*

Жупраны —
грудочак спакою спрадвечнага
цемрай прыбраны.

Жупраны.
Світальныя песні паэта
на дудцы зайграны.

Жупраны.
Тут кожны яго зразумеў,
як даследчык старанны.

Жупраны.
Узняты аратым руплівым
дзірван занядбаны.

## *ГЯРВЯТЫ*

---

Над шызай дымкаю
вячыстых крон
жар-птушка з казкі
бярэ разгон.

Адкуль над шпілем ранняя імгла?
Адкуль такая сонечная млявасць?
Такая урачыстая яскравасць!
Аж прыгажэе навакол зямля.

Любові перапоўнена азерца,
здавалася, ужо ідзе на спад.
Ды з Божым скарбам улілося ў сэрца,
са шпілем позняй готыкі Гярвят.

Адкуль жа у майстроў такі размах
і дзе натхненне бралі сапраўды,
вось узляцеў увысь чырвоны птах —
касцёл —
і затрымаўся назаўжды...

* * *

---

Жывучы далёка ад сястры,
захварэўшы крышку, знемагуся.
Стукаюць у шыбіну вятры,
чулыя, як рукі Беларусі.

Ціха папрашу чужую цётку:
— Адчыніце, калі ласка, фортку.
Ды раскрыйце мне сваю душу,
дык пра ўсё і я вам раскажу.

Не пакінь, мая радзіма, донькі
ды насып мне зорак у далонькі.
Тут прысядзь. Пабудзь са мной даўжэй.
Добра ўжо... Хай Бог вас беражэ.

## *СПАДЧЫНА*

Атрымала ў спадчыну на шчасце
працаю запоўненыя дні.
За гасцінцам —
дзверы ў хатах насцеж —
бесталковы клан маёй радні...

Ці хінулася б душой па-свойску
да цяпла,
што ўгрэў маладзічок,
каб не бегла ў памяці праз вёску
ў палатнянай казачкі дзяўчо?

Каб не мучылі аж да аскомы
словы —
імі смагу загаю...
Каб на повадзе не пасвіў Нёман,
як цялушку, рэчачку Гаўю...

Каб не прывязала назаўжды
ад любві сябе на той жа повад...
Ці спатрэбіцца камусьці споведзь
ранняе надзеі і жуды?..

## *КАЛОДАЧКА*

Весці плуг баразёнкай
ажно да гасцінца.
Так пражыць, нібы каня —
на чыстай расінцы.

Заліхвацка націснуць
на кнопачку тую —
расцягнуць даастатку
гармонік-натуру,
перадаць сваю песню
задымленым стрэхам
і замоўкнуць зусім
жаваронкавым рэхам...

Ах, мамачка, ах, цётачка!
На гармоніку грае калодачка!
Рэжа польку, нібы больку
замаўляе.
Мяне хлопцы не бяруць —
замалая.

## *СТРЫМАНАСЦЬ*

---

Падымацца санліўцы былой —
ледзь засвяцілі промні.
Меней дбай аб сабе самой,
болей аб іншых помні.

Не толькі табе ўсё ведаць,
хадзіць разумнай і дужай.
Пабудзь з вясёлай бяседай,
застанься з ціхаю дружбай.

Сама ты не пералезеш
высокія ўсе пералазкі.
Хавай пад страхой жалеззе...
Памрой і аб грушках райскіх.

## *ЗАМОВА*

Адзвінелі ручаіны ў сакаўных мурагах.
Адспяваў у гаёчку і знікнуў салоўка.
Сіратлівая рачулка
у высокіх берагах
закалыхвае малечаў...
Толькі лекавае слоўка,
як гаючая расінка,
вусны абросіць...
Усяго было замала.
Усяго мне стала досыць.

Як жа ціха мне на прыцемку
прасіць на дапамогу
толькі добрую збавіцельку —
матулінную мову,—
каб змаганцы пра мяне:
— Вельмі дужая! — сказалі...
Пра слабую, засмучоную,
абмытую слязамі.

## *ШЧЫРАСЦЬ*

— Мама,
каб ператварыцца можна было
напрадвесні,
якою зрабілася б птушкай —
гускаю ці амялушкай?
— Песняй.

— Я пытаюся: птушкай —
вандроўнай або пералётнай,
лясной ці балотнай,
палявою, чаротнай?
— Роднай...

— Аляпкай?
Яна пад вадой і на сушы...
— Ты і без крылцаў дужы.

— Мама, а ўсё-ткі:
птушкі гэтак высока.
Ты жураўліха ці соўка?
— Слоўка.

## *НА ЖЫЦЦЁ*

---

Ты тут вандроўнік, лірнік і ратай,
і можаш на цымбалах буры граць,
і колькі хочаш спаць...
Матулін край!
І за яго не трэба паміраць.

Шумі з сябрамі шчырай талакой —
з дубровай, з паўнаводнаю ракой.
Ідзі, куды надумаешся, едзь.
І можна тут ад шчасця анямець!

І радасці ў дванаццаць верацён
тут напрадуць, пакуль ты маладзён,
на ўсе
тры тысячы шэсцьсот шэсцьдзесят дзён,
ад продкаў перададзеных жыццём.

Ці ёсць адвага, каб сябе знайсці?
Як сонейку за лесам не зайсці?
З душою лёгкай не паліць кастры
і не згарэць бяздумна да пары?

* * *

---

Пакоціцца месяца жоўтае кола
за далягляд, дзе самотна і гола,
дзе полымя зяпкай спалоханай рыжай
забытыя ў полі саломінкі зліжа.

Маркотны ліст на ліпе апошні
з ветрам крыху пагуляе па пожні.
Усё апала, усё пазбірана.
Тут зімаваць нам наканавана.

* * *

---

Перабіраючы світанняў нітку
зялёнымі шлячкамі падарожжаў,
сабе на кроснах паясочак вытку,
галоўку паясочкам упрыгожу.

Не маю ў шафе набіванкі-хусткі,
не маю скіндачкі, у шафе — пусткі.
Не навучылася вязаць намітку...
На кроснах сціплы паясочак вытку.

## *БРАТЫ*

---

Губляюць сілу.
Мала маюць сілы.
Малодшы да старэйшага
у госці
прыходзіць.
Сядуць на краі магілы,
сагрэюцца цяплом
далёкай маладосці.

Са смехам прыгадаюць,
як аднойчы
адзін з іх конна
пераязджаў па ночы
раку,
гняды рухавы быў такі —
уздумаў легчы пасярод ракі.

Успамінаюць
хваробы, войны, гора,
ды аб сваіх дзяўчатах не гавораць.

Хвалююцца,
згадаўшы пра выпадак,
як маці іхняя знячэўку
ў студню ўпала,
як выбіралася пакутна,
покуль дзеці
адны салодка спалі на дасвецці.
На бацьку крыўда стоена
дагэтуль.

Дрыготка перераказваюць дуэтам
дзядзькоў імёны...
Усіх не прыгадаць.

Тужліва змоўкнуць:
няхай спакойна спяць...
Забыліся з вачэй слязу абцерці.
Старэйшы словы ў шнурок збярэ:
— Пакуль што ўсе яны жывуць
у нашым сэрцы.
Памром —
і памяць аб іх памрэ.

## *ВЫЛІЧАННЕ*

---

Голас пляменніцы вінаваты:
— Памёр дзядуля...
Не стала таты.
На тату сям'я трымалася наша.
Сашчапіліся рукі нашча.

Зялёныя вочы,
што грэлі, як сонца,
заплюшчыў... Болей
не выйдзе з сенцаў.

Пайшоў мой тата —
вандроўнік лясны,
ра́днік вясны,—
пайшоў у сны.

Ва ўтульным закутку краю
каля маладой бярозкі
жалейка ледзь чутна йграе
жалобную песню вёскі.

Зямелька — хата.
Месяц — браток.
А вось і мой тата —
дзірвання грудок.

## *ПТУШКІ*

---

Днём пацямнела.
Усе пачулі —
так ціўкаюць не птушкі,
гэта кулі...

А цётка Броня гоніць нас у спрат,
як тых авечак, далей ад хат...
Піхае цётка нас у яму з лёту,
як быдла, адпыняе кулямёты...

Так б'ецца,
аж займае грудзі, сэрца.
Так міма ямы прэцца людажэрца...

Шуміць агонь,
дзяўбе галіны соснаў...
так смерць за нас прымаюць
дрэвы-казкі...

Прамчаўся міма вораг безлітосны.
Ужо далёка ворагавы каскі...

Так. За любоў няма мацнейшай броні.
Іглiцы сыплюцца да цёткі Броні.

## *БУСЛЯНКА*

---

### УСТУП

Плёну ў працы дням тваім будным,
шыр, што прашчур мераў ступою.

Будзь паўнаводнаю, студня,
дзе цёткі вядзёркі пояць.

Хай гняздуецца родная ластаўка,
што сёстраў ранкам вітае.

Хай грамы вас абудзяць, далі,
вы мне падарылі світанне.

Чыстым будзь, гамонкі ручай,
мне троп цераз бор скарачай.

Мерным — скрып старажытных калёс,—
у навуку з маленства вёз.

Гэты цёплы закутак
неабдымным сусветам падаўся.
На суку дуплаватым
з птушанятамі род мой гайдаўся.

Лістам слаліся долу
дні. Галовы курыла імжа.
Тут спаткала я долю,
дзе канчаецца продкаў мяжа.

## ФРАНУСЯ

Над вузкім шнуром гнулася,
па межах блудзіла
вясна бабулі Францусі
песняй лебядзінай.

— Скуль, зязюлька?
— З Заполля...
— Згарыць тут мая воля.

Сваты па слову
замовілі змову.
Павезлі замуж —
на вочы засмуж.

У купца-малайца
сіротаў, як маку.
— А дзе ж маці?
— Пахавалі мамку.

Чужыя дзеткі —
твае кайданкі.
А іхні бацька
любіў гулянкі.

Прыехаў учора —
пануры, як мора.
— Ты — мой барыш,
нясі свой крыж.

Над хатай бусел
спавіў буслянку.
Нясе Францусі
штогод запалянку.

Успомні, мама,
пад вечар, зранку.
Цябе ж я помню,
бы ў сэрцы ранку.

— Прадам,— гаворыць,—
здыхлю-жаробку.
Паеду за мора
шукаць заробку.

Прывёз дахаты
на латах латы.
— Няма вярма,
дзе нас няма.

Я да свайго роду
не шукаю броду.
Хоць і намачуся,
але дакачуся.

На тыдзень жабрачка
прагнала голад.
Самой гарачка
здушыла горла.

## ЗАПАЛЯНКІ

Не аперыліся птушкі,
паляцелі рана ў служкі.

Як туман на даліне вырас,
перад вандроўкай прыселі,
узняліся ў бусліны вырай
над прасторам асенніх аселіц.

Пад крылом у смузе радзіма —
утульнае, роснае дзіва.

Сумота, сумота —
ляцець ад пагоні сумётаў.

Пад сонца падкінуць яліны
вясновае кола буслянкі,
памножыцца род бусліны.
Бусліны род — запалянкі.

БУСЛЯНЯТЫ

Неслухмяную постаць
сялянскае маці
аглядае прыдзірліва бабка:
— Хутка боця на плоце
прысядзе — прымайце!
А будзе то буслік ці жабка?

А жанчына нясе,
нібы поўдзень, жывот
па мурожным духмяным зацішку.

Асцярожна ступае:
сцяжына, як лёд.
З непрывычкі ёй сорамна крышку.

Перасмешнік заходзіцца
ў золкай расе...
Два сэрцы ў сабе
жанчына нясе.
— Тук-тук, так-так...
Стукочуць у такт.

То мяне на траскучы мароз
да Кундрацíхі бусел прынёс.
Сам стары, нялёткі, падбіты,
ды з гаючаю прагай блакіту.

Злётаў крылы свае за гады.
На нагах мазалі ад хады.
Пашарэла перыйка бель.
Парыжэла хваста чарнота.
Апошнюю зімку гібеў
між чароту старога балота.
Апошнюю птушку-дзяўчыну
спавітушцы ў сенцы падкінуў.
Сам схаваўся паміж галля.
І знямоглага боцю віхор залюляў.

* * *

Гадавала мяне сінічка,
мая сястрычка.
Спявала на сон, на прасонак.
Абмывала расой, выцірала сонцам,
сонца гойдалася між сасонак.

Ды часала мае кудзеры
з шорсткай кудзелі.
За руку выводзіла ў людзі,
каб паглядзелі.

Угдядаліся, нібы ў люстэрка,
на сястру з усіх павароткаў.
Не дзяўчына — прынада-цукерка
на вуснах цікаўных цёткаў.

Ды прыехаў з далёкага краю,
як злавіў пагалоску-дзічыну,
пан гандлёвец. Прывёз краму —
прадаць і купіць дзяўчыну.

Абмяркоўвалі важную справу —
як веселле згуляць да Каляд.
Пакуль не прысеў на лаву
госць няпрошаны — Мікалай.

## ЯНІНА

Спахмурнела гасціна —
адлятала цётка Яніна.

— Што сядзець тут, чакаць смерці!
Павартуюць сажалку чэрці.
Збірайся... У лёткі час!
Пагля́дзіш свету за нас.

Выбівалі калёсы чачотку —
далёка павезлі цётку.
Перапоўненыя вакзалы
вузлякі на памяць вязалі.
Было там пітво і закусь.
Наглядзелася цудаў за дзякуй.

Заспакоіў ліст родны кут:
за светам — ніякіх пакут.

Напрадвесні — злавіў яе слых —
плылі ў сінечы буслы.
Уварваўся май да Яніны
без чаромхавай азярыны,
без паводкі, лотаці, кладкі...
Без магілак, без роднай хаткі.

Затужыла па вёсцы цётка,
неяк сэрца балюча ные:
— Я бяскрылая ды нялёткая...
Запалянкі — бусліхі зямныя.

Прырасла да Радзімы навекі,
як буслянка да елкі.

## *ЧАС*

Пацішэў бору гоман.
Плытчэе задумлівы Нёман.
Не хлябчы яго, летняе сонца.
Не муціце, жураўкі, донца.

Нават сны свой колер мяняюць.
Як жа хутка дні, тыдні мінаюць.
Нібы ў казцы, усё гэтак сталася:
ад маленства тры ўзлёты да сталасці.

Між дзвюх дат працяжнік і кропка.
Накрэслены графік няхітра.
Лёс сплануе таропка.
Час напіша і вытра.

Больш ніякіх цудаў не будзе.
Ад зямлі не чакаю, ад неба.
Разважаю ўпарта аб бунце,
а раблю заўжды так, як трэба.

Сябра мой нязменны ў жыцці!
Твой агонь і цяпер мяне паліць.
Нешта ты нязвыкла прыціх.
Непрыемна, калі цябе хваляць?

Як мяняюцца вершы!
Першародны іх сэнс. А раней
перачытваеш ноччу і верыш:
незнаёмы пісаў пра мяне...

Толькі тая ж рабіна
над бабуляй расце замест крыжа.
Толькі тая ж рабіна
цётку, маці, мяне закалыша.
Толькі тая ж хаціна
між аблокаў жытнёвых і бэзу.
Толькі тая ж краіна —
як пакліча, пад кулі палезу...

## *РЫСКА*

Край мой, сагрэты
сонечнай ласкай:
сонны ядловец
і восеньскі мох.
Дзе на жалейцы
іграюць падпаскі,
дзе заблудзіўся,
стаміўшыся, Бог.

Край, дзе мацуюць
жаўранкі крылцы,
буслікі клеплюць
у лузе касу.
Вецер іграе на чарацінцы —
то і ў людзей развяваецца сум.

Ляжа на стрэхі
снег, як пярына.
Казку, як птушку,
прытулім да рук...
Тут нарадзіўся
Францішак Скарына.
Тут жа Купала
быў проста Янук.

## *ПА ДРОГКАЙ ГРЭБЛІ...*

---

Паўночны ветах,
як абрыкос,
паволі коціцца
ўвысь наўскос
праз патаемны
абшар нябёс...
Па дрогкай грэблі
грукоча воз...
Я ручаіну
дзявочых слёз
знячэўку кіну
табе на лёс...
Вясёлкі хустачку
мне прывёз...
Па дрогкай грэблі
грукоча воз...

* * *

У маёй біяграфіі датаў не шмат —
вёсны, кусцікі бэзу
пад вокнамі хат.
Не зрабіла ніякага рызыкоўнага кроку.
Не заступіў дарогу насарог або слонік.
Я сяджу за сталом
ад світанку да змроку
і чытаю, чытаю
граматыку, слоўнік...

* * *

Сэрца сціскаецца лёгка
у прадчуванні разлукі.
Сябра паедзе далёка.
Толькі аб ім твае думкі.

Неяк не пішуцца вершы,
і не матаецца пража.
Стаў ён табе найраднейшы —
толькі разлука падкажа.

Неяк трапляюць на вочы
кніжкі, запіскі, дарункі.
Нашы размовы з паўночы...
Дужыя сябравы рукі...

Як яму бавіцца сёння?
З ветрам не грукае ў сенцы.
Стоіцца ў стомленым сэрцы
між успамінаў асенніх.

* * *

---

Ты на лета пакінуў мяне
ў краіне,
дзе гром уваскрэс,
дзе ў таемным начным кургане
лесуноў не панішчыў прагрэс.

На царкоўішчах,
што пад лясы
па паданнях за кару сышлі,
зноў званы на званіцах гулі,
чутны душаў жывых галасы.

На развалінах замчышча Крэва,
мураванай Ашмянкі шкілеце
разрастаецца пострaху дрэва.
Як вужы,
забабоны па следзе...

Між стагоў пераспелай саломы,
утаропіўшы бельмы на месяц,
на палетках калгасных
заломы
спрытна ведзьмы, чаруючы,
мецяць.

Як страхоцце і звод праміне
між цвілых балацяных віроў,
як звядуць лесуноў,
ведзьмароў,
ці захочаш дрыжэць за мяне?

* * *

---

На забытым сонцам
азярцы,
да якога ты
выпадкам збочыў,
што табе
мае сказалі вочы?
Зблыталі пачаткі і канцы.

Нас абараняць
ніхто не згодзіцца,
ды з табой убачыліся мы.
Нават і гара з гарою
сходзіцца.
Мовай гутарыць
сусвет нямы.

Любы мой,
якія мы з табой
маладыя і зеленавокія.
Самалёты
скручвалі ў сувой
белых воблакаў
палотны волкія.

* * *

Даўно пара пасталець.
Духмяны хлеб на стале.
І ласкі хочам, як хлеба,
а вочы шукаюць неба.

А ты далёка паехаў
ад сэрца свайго —
спарыша.
За сто гаёчкаў і рэхаў
цябе завяла душа.

Даедзеш, куды захочаш,
і знойдзеш ад суму лек...
Твае неспакойныя вочы
глядзяць з-пад маіх павек.

*ВЯСНА*

---

Знянацку рэкі скінулі ільды.
Ажно зайшліся дрэвы ад вады.
Кусты дык захліснуліся б, каб трохі.
Ды, вынырнуўшы з ванны, зацвілі.
Пралескам цесна ў лесе. А дарогі
звінелі, стукацелі і гулі.

Не шкадавала сонейка пагоды.
Прастора аж свяцілася ў блакіце.
А жыта бралася не ў трубкі, як заўсёды,—
жалейкі пелі з кожнай трубкі ў жыце.

Смяяліся крыніцы. Ярына
кусцілася на поўнае дыханне.

Жанчыны варты моцнага кахання.
Усе кахання варты як адна.

* * *

---

Я маладосць адправіла ні з чым:
не трэба больш вярэдзіць
мне галоўку.
Ты адбыла ўжо тут сваю радоўку,
стаміла...
Дай мне выспацца ўначы.

Але не расквіталася з вясной:
як з недарэкай, дражніцца са мной,—
мужчынаў выстаўляе маладых...
Як зіркне іншы — перахопіць дых...

Але не адпусціла б, каб прымела,
з вачэй каханых шчырае праменне,
каб сполахам таілася ўваччу
і грэла сэрца мне...
Чаго хачу!

*ЛЕТА*

---

Спаць паклалася сонейка нашча,
не напіўшыся з вуснаў смагі.
Зацвітала лецейка наша,
ды даспець не хапіла адвагі.

Падсцілаў фартушок нам луг,
не скамечаны фартушок.
Ні Дзвіна, ні Нарач, ні Буг,
ні зацішак,
ні мох,
ні стажок.

Сэрца з болю адкрыта
прад светам,
нібы неба, як дождж ідзе.
Не ўсміхалася я гэтым летам,
нават гледзячы ў вочы вадзе.

Не злую.
Баязлівец статны
даў мне шчасця,
на колькі быў здатны:
падштурхнуў з сянец —
і маўчок.
Я сама знайшла грашачок.

* * *

Я за статкам па няроўным полі,
як пастушка добрая, пайшла.
Мы з табой не ўбачымся ніколі...
Мы з табой сустрэнемся пасля.

Вецер па сівым папары летам
лён, як валасы твае, паслаў...
Мы з табой убачымся за светам.
Мы з табой сустрэнемся пасля.

Будуць паасобку нашы мацеркі
ноччу плакаць, ранкам біць збанкі.
Мы рассыпаліся, нібы пацеркі,
зноў у супрацьлеглыя бакі.

## *АШМЯНКА*

З краямі поўнымі,
як шклянка,
лагоднай змейкаю
Ашмянка
градой ашмянскаю
цячэ...
А нехта
знік з маіх вачэй.

Чытаю кнігаўку,
бы кніжку.
Ашмянку
папракаю крышку,
што,
расспяваная ў прасторы,
здаецца
дзікаю,
пустою.

Стракаты конь траву скубе
з яснотай,
яснаю да болю:
лепш нешчаслівай быць
з табою,
чым нешчаслівай
без цябе.

* * *

---

Маладзікова.
Ягадна.
Клянова.
Двух сэрцаў —
двух сусветаў прыцяжэнне,
як быццам нарадзіліся нанова.
Як быццам
гэта мае прадаўжэнне.

Але не мае будучыні тое,
што будучыні прад сабой не мае.
Над іншымі,
хто ў сведкі ноч наймае,
хай злітуецца сонца залатое.

## *ЛЯ ГЛІНІШЧАЎ*

---

Тут буду бульбачку капаць,
з такой старанлівасцю брацца,
як на вячоркі апранацца,
каб незачэпу зачапаць.

Насыплю поўны кошык бульбы,
а пра мяне ўжо б'юць у бубны.
Мяне нікому не шкада —
непаслухмяную дзяўчыну.
Я палюбіла, як вада
паводкай стромую лагчыну.

## *СУЦЕХА*

---

Любоў знянацку апаліла сэрца.
Спяклося, нібы яблык на кастры.
Абвугленая костачка ўнутры.

Як прысак выстыне, куды падзецца?
А ты ўсё паліш, як вясновы гром.
Такое не канчаецца дабром.

Што грызці камень, што ламацца ў дзверцы...
Што слёзы сыпаць... Марнасць-марната...
Любоў, любоў — бягучая вада.

* * *

---

— Пашыю каптан каляровы.
Згатую смачную страву.
Сама адпасу каровы...
Ідзі здабывай славу.

— Навошта гэта штуковіна?
Ні выпіць, ні пахмяліцца...
— Павесім на крэйку ля коміна.
Хай блішча, пакуль закурыцца.

## *НЕ ПЕРАСКОЧЫЛА*

---

Пазвоніць мне і скажа навіну:
— Ты пераплюнула круцёлку не адну.
А я падскочу, як ад іголкі:
— Не ведаю ніводнае круцёлкі.

А ён блазнуе і далей чаўпе:
— Не пераскочыла адной сябе.
— Не пераскочыла, то пераскочу...
Ужо нам спаць пара. Спакойнай ночы.

...У нашым краі лезуць у душу —
да сына бацька, да паэта госці.
Залазяць, як іголкі пад пазногці.
А я даўно нічога не кажу.

## *ЗЯЛЁНЫ ПТАХ*

---

Зялёны птах
з палоскай жоўтаю удоўж крыла.
Згубіла страх,
разгубленасць перамагла.
Выглядваю штодзень
з акна цябе.
Ужо дзяўбе
крупінкі раннія маіх надзей.
Паветра дзюбкай чысціць між галля.
Не страшна сцюжа, золь.
Затоена любуюся здаля.
Мінае боль.
Сініцы, амялушкі і гілі
таксама гронкі слёз маіх дзяўблі.
Спагадліва чырыкалі ў галлі.
Зялёны птах маю журбу гаіў.

* * *

Мы напалохалі плоткаў
на самотным возеры.
Мы не баяліся продкаў.
Баяліся восені.

Сябе саміх не баяліся,
ды ледзь пераносілі.
Сварыліся ды спрачаліся.
Баяліся восені.

Не баяліся мы світання
ды начнога холаду.
Не баяліся мы расстання...
Ні страляніны...
Ні голаду...

* * *

Ружаў на шчочкі не дорыць вясна.
Праца і праца з відна да цямна.
Ходзім чужыя, а сцежка адна.

Зранку спяшаемся кожны ў свой бок.
Цень не пазна́е ценю здалёк.
Вось параўняўся — і ў Нёман уцёк.

Ды не нырцуе мой цень за тваім,
мы над прадоннем падумаем з ім:
вынырне цень твой ці згіне, як дым...

## *КУПАЛЬНІК*

Усмешка сонца ў лясным зацішку —
купальнік
ап'яніў мяне крышку.
Пах настоены гаркавы
ўдыхаю. Не хачу есці стравы,
не хочацца кавы.

Стукоча сэрца, нібы дзяцел.
Марненька
тамілася нядаўна.
Кветка арніка —
цябе назвалі кніжныя мужы.
Адмаладзець душой дапамажы.
Пяшчотай аднавіць
здранцвелых нерваў клеткі.
Ва мне ратуйце жаноцкасць,
кветкі!

* * *

---

Наблытала спакусная вясна:
што мы шчаслівыя,
падумала яна.

Свяціўся дзіўны горад,
бы шацёр.
Па горадзе пайшлі —
і ён замёр:
глядзеў, не зводзіў здзіўленых вачэй,
свяціў агнямі яшчэ ярчэй.

А нехта непадроблена ўздыхнуў —
каго наш выгляд смуткам закрануў.
Таго вясновы смутак пранізаў,
хто вочы мілай прыпомніў сам.

* * *

Сармацкае імя
больш не магу
ні ціха, ні са злосцю
вымаўляць...
Ды мне ўжо вусны ад яго
баляць,
ды забывацца пачало
крыху.

Хачу забыць зусім яго —
дарма!
Гаркавае сармацкае імя,
як перац,
як гарэлка,
як часнык,
як вогнік,
апякае мой язык.

## *АСАКА*

---

Рвала вішні недаспелыя,
хваліла.
А салодкія, чырвоныя спяліла
маладому задаваку, што па ночы
і прысніць мяне не хоча...
Ды аднойчы...
Вольны жораў доўга лётаў, занудзіўся,
вінаваты на парозе ён з'явіўся:
— Дай напіцца, прыгубіцца...
Ёсць крынічная вадзіца.
Я ж налью адной кісліцы
з прыгаворам:
— Дзе ж піцення наспех возьмем?
Паскідала з дрэў у садзе восень
вішні спелыя, аж чорныя бакі.
Падзяўблі іх амялушкі ды шпакі.
Пі, мой згублены, зайшоў сюды па часе,
я адна не раз гаркоты напілася...
— Ну, чаго ты так злуеш?
Давай мірыцца!
Саладзейшая, чым мёд, твая кісліца.

* * *

Такая вясновая выпала восень.
Цвітуць, як вясной, незабудкі між сосен.
Было нам нядаўна дванаццаць плюс восем.

Учора сышліся ў адну дзве сцяжынкі.
Учора свае святкавалі дажынкі.
Вачэй не замглілі скупыя дажджынкі.

Віецца жыццёвая лінія проста,
яна абяцае любоў і сяброўства.
У сэрцы няма прадчування, што ростань...

што вечная ростань змарнуе нам свята...
У сэрцы маім, да крывінкі занятым,
зялёным радочкам усходзяць зярняты.

* * *

За любоўю напрост басанож,
нібы ластаўка, лётала ў сне.
— Забяры ты мяне ў тую ноч!
— Можа, знойдзеш каго без мяне...

Не знаходжу.
Між ніваў і рэк
апусцеў наш заселены кут.
Тут згубіўся адзін чалавек,
нібы ўсе яны вымерлі тут.

Хоць бы прысак на вогнішчы тлеў!
Адзінота шыпіць, як змяя.
Я пад коўдру залезу, але
не сагрэта пасцелька мая.

Ненаўмысна да шыбіны стаць,
аглядаць ад сцяны да сцяны
за імжакаю двор прахадны...
На рагу як бы тая ж пастаць.

* * *

---

Выгінастую плынь вадапою
маладзік сярпочкам намеціў,
дзе, абняўшыся, мы з табою
ад кахання маглі памерці.

Прыхапіў нашу долю мароз.
Замятуха галінкі ламала.
Ды каб шчасцейка гай узрос,
усё роўна было б яго мала.

Аніхто нідзе і ніколі
не падумаў, што шчасця даволі,
што захвоціўся ім сапраўды,—
зажадалася ліха-бяды.

Не зайздросцяць спакою цёмнаму.
Мой гасцінец — дзядуля старэнькі.
Нават шчаняці бяздомнаму
зазірнуць маю права ў зрэнкі.

* * *

---

Пад стрэшку пасярод жытнёвых гонейкаў
сяброў склікаю на капытны збор.
Каго ў дзяцінстве сагрэлі сонейкам,
таму хапае цеплыні ад зор.

Сунічныя, сасновыя шляхі
матулі Беларусі ўзмоцняць сілай.
Ну, што там словы — скочкі над магілай?
Ад іх не ачуняе — хто глухі...

Няхітры склад вясковага пісьма —
усё багацце, што пакіну сыну.
Ці можа гэта грэць, калі я згіну?
І ці нічога лепшага няма?

Між рэкамі і пушчамі стаю.
Зблуканых запрашаю на вячэру.
Іх накармлю, як Віку і Валеру.
Каму ж я дабрыню аддам сваю?

Вярніся лёткай птушкай, маладосць!
Што ж бачу? Між ружовага чабору
мне сонейка дае снапок гумору,
нібы пачула...
Так яно і ёсць...

* * *

Куточку продкаў не аддам даўгі...
А Нёман роспачы заліў лугі.

Вядуць няўцямна ногі да магіл...
А Нёман роспачы заліў лугі.

А над балотам бусел і другі
так плаўна робяць шчырыя кругі
і прызямляюцца на два рагі
збуцвелай, толькі буславай страхі...

А Нёман роспачы заліў лугі...

* * *

---

Не ўзыду крынічкай анікому.
Нават знічкаю не пасвячу.
Да святла — ніякага праёму.
Звечарэла.
Цемрадзь уваччу.

Як прыбой на моры, свет спакусны.
Ад яго лячуся толькі сном.
Без пяшчоты застываюць вусны,
нібы птушкі ранняю вясной.

Дзе ж мой край, вясёлкамі прыбраны?
Мой ратунак!
Як жа я адна?
Даганяў ручай, ад шчасця п'яны.
Лашчыў рукі бор ля Астрына...

* * *

Дзе сонныя бусляняты
спавіты полкамі хмараў,
дзе прарастаюць зярняты
надзеі сярод папараў.

Дзе ясны, чысты двурогі
маладзік авечак пасе,
ніхто не пытае дарогі,
там буду я, як усе...

Там, уцякаючы ў морак,
губляюць жар-птахі пер'е.
Самота воддаль ад зорак
плыве па моры бязмер'я.

А сонца расчэсвае дым,
ва ўсе шэсць напрамкаў свеціць.
О, там не трэба святым
начаваць у абдымках смерці!

* * *

---

Пакручуся, пабуду яшчэ, дзе святло.
Ад вачэй непрыемных ратуй мяне, Божа,
калі мне на пакуту адклаў падарожжа.
Перастану трымацца, як разам было.

Перад ім апраўданне —
жыву як найгорш.
Між няздатных гібею слабой небаракай.
Сціснe сэрца паплакаць —
хоць дзе буду плакаць.
А навошта сляза?
Супакойвае ўсё ж.

Урачыста прыкленчу на тую мяжу,
дзе цвінтар-цвінтарэй
ружавее ў граніце...
Я пакуль што жыву, але ўсімі ў забыце.
Толькі добраму Богу адкрыю душу.

Не прачнецца жаданне збудзіць перапёлку,
на світанні пацешыцца ля ручайка.
Да зямліцы прыгне мяне, кволую зёлку,—
патрымаю галоўку зямлі на руках.

* * *

Я адна не хацела б вяртацца ў наш дом.
Белы свет стаў мне домам, а ложак — зямля.
Завуркоча са мною даверлівы гром.
Запалоніць самота душу спакваля.

Паміж намі адразу паўстала сцяна —
гэта смерць, глухата...
Але птаха ліста
можа як даляціць да тваёй цемнаты
ад маёй цемнаты...
Паміж намі — лісты.

Абяцаў мне:
— Вярнуся з лістамі вясной.
Да зялёнай бярозы вясною прыйдзі,
на грудочак сухі галаву пакладзі,—
і параішся з гэтым грудочкам, са мной...

Мы рассыплемся зеллечкам роднай зямлі
і спляцёмся карэннем глыбока на дне.
Толькі моцна да сэрца мяне прытулі
і змані, што адну не пакінеш мяне.

* * *

---

Так прыгнула мяне
да шурпатай кары,
да гарбатай гары
гэта пустка знутры.

Мне пад ногі падкінь
беражок ля ракі,
дзе травіца, бы шоўк,
мой сынок-веташок.

Мой сынок, белы свет,
мой заступнік ад бед,
мой вясковы, як дзед,
як яго запавет.

Без надзеі не кінь,
сонца дзённае — сын,
сонца чорнае — сын,
на ўсе сонцы — адзін.

## *СПАЛОХ*

---

Прысніла, што бягу праз цёмны бор
і не знаходжу сцежкі давідна.
І ты прапаў, як лівень у касцёр,
а паміж намі страшная вайна.

Бягу, бягу, а сэрданька дрыжыць.
Схаваў ад смерці нашу хату снег.
А хто ж нас абароніць ад чужых?
Дарогу белы зайчык перабег.

Я зайчыка палохаюся зноў.
Як быццам не прачнулася, стагну.
Як быццам не жыву ў краіне сноў.
Як быццам сню ўсё гэта ўпершыню...

* * *

---

Калі б думкі смелыя былі,
за сабою войска павялі.
Выдумала б выйсце з тупіку.
Але ў галаве — як на таку.

Выдумала — шчырая пара.
Да другіх сясцёр пайшла сястра,
з літасці слязіну не змахне...
Толькі сонейка не здрадзіць мне.

Разальюцца морам цеплаты
рэкі-сёстры, ручаі-браты.
Стануць прад вачамі тарапы —
снегу пацямнелыя тарпы.

А пакуль бяскрай, бялютка, гладка.
У настылых далях з ценяў кладка.
Дзюбкі рунь высоўвае з-пад снегу.
Кудасе нідзе няма начлегу.

## *АСТРЫНА*

---

Як запавет, небакрай...
Ціша і даўніна...
Птушак вясёлы грай
ўзлятае да Астрына.

Ружай цвіце малачай.
Гулкі, як звон, званок.
Церпкі, як чай, ручай.
З хмелю ў яго вянок...

Свята ў нас... А чаму
смачна дымяць дымы
ды зачыняюць карчму,
як згаладаемся мы...

Але даўжэе як
наш малады цяняк,
нацягнуты, бы струна,
на вулачкі Астрына!

## *ГАЛАДОК*

---

З ускрайку лесу сонейка
прагнала халадок.
З-пад снегу вылез і зацвіў
драбнюткі галадок...

Лістамі-шыльцамі пачаў
будзіць са спячкі пчол.
Пачаў лістамі казытаць
бярозы навакол.

Нічога гэтага сама
не прагнула даўней...
А вось стамілася зіма...
Лес аддае вясне.

Самой сябе было шкада,
аж плакала са сну,
пакуль маленькі галадок
не абудзіў вясну...

* * *

---

У летуценнях
вёсны, нібы сонейкі.
А нашы вёсны —
сінія, бы сончыкі...
на ўзлесках...
А на полі, як таўкачыкі,—
з раллі высоўваюць
малыя пальчыкі...

За нейкім хлопчыкам
вясна мяне паслала.
Цялушку пасвіць кожны дзень —
было мне мала...

Мы пастаялі
пад цыганскім сонцам —
то пад халодным ветахам,
на моцным
вясновым ветры...
Вечар ці світанне?

Далёка захапленне
ад кахання?

## *ЦВІНТАРЭЙ*

---

Так зыркаюць
вачэй маіх звяркі.
Збіў з панталыку,
раздражніў і цешся.

Як вочны цвет
запаланіў гуркі,
нібы сівец
запаланіў грудкі,
заечым хмелем
спавіта сцежка.

Заечы хмель,
а ў кніжках пішуць —
вязель.
Ёсць рыфма ў песні:
будзеш ты, мой вязень,
пеленгаваць, як баравое рэха,
мой голас. А каб вобраз мой насіў
у сэрцы, не пасохнуў дзівасіл
па нізкіх берагах азёр і рэкаў.

Расце ў лугах
гаючы цвінтарэй.
Снапок гаючых зёлак назбіраю.
Калі з'яўлюся, сэрца замірае?
Хай замірае, пакуль да раю...
Пі цвінтарэй,
кахай і не старэй.

## *ЖАЎРАНАК*

---

Я не пайшла палуднаваць дахаты.
Паклала стому на край прымяты.
З радзімай абнялася.
Поўдзень ляскаў,
гудзеў і дыхаў тэхнікай сялянскай.

Але жаўрук,
нібы ў стагоддзе коней,
сярод дагледжаных шырокіх гоней,
над пульхнай глебай
між сівой раллі
сцвярджаў свае правы на край зямлі.

Калматыя мядзведзі белых хмар
мне зрэдку ветрык
звейвалі на твар.
Не заглушала песня цыркуляркі
ні жаваронка, ні мяне, ні хмаркі.

* * *

Прыбраўшыся ў пунсовыя маністы
рабін гаркавых, знікла назаўжды.
І толькі смутак безнадзейна чысты,
як вадаспад крынічнае вады.

Зрэдчас світаннем
воблікам імглістым
прасочыцца ў смугу маіх вачэй.
І толькі смутак безнадзейна чысты,
нібы пажар, істоту апячэ.

## *ЗМАЎЧАЎ*

---

Ані груш, ані сліў
мне мой любы не насіў —
мне каханы мой дарыў
ўсё праталінкі ў бары.

Адгалоскі вясны,
пахі смольнай сасны,
ды шаўковыя імхі,
ды ружовыя шляхі.

Падарыў лясны ручэй,
усе зоранькі начэй.
Салаўіныя гаі,
пацалункаў — на дваіх...

І вясёлкі з нябёс
у вачах сваіх прынёс.
Ды змаўчаў, што прынясе
і маланкі — усе.

## *ЗАМАРАЗКІ*

Падковы коней,
бы пячаткі,
на заінелай руні
скрозь.
На кожны парастак
мароз
надзеў
бялюткія пальчаткі.

* * *

---

Яшчэ не прачнуліся хлопцы,
што будуць жорстка вучыць.
Пакуль мяне школіць спахопяцца,
баюся ваўкоў і ваўчыц.

## *ДАЧЦЭ*

---

Сцяжынай
між нябёс,
кастроў
і крыг
ідзі,
мая дачушка,
ганаровай!
Свяціся
на вачах
зямлі суровай
такой жа,
нібыта ў вачах маіх.

* * *

Іду ў халоднае прадонне —
спяшаюся за рэчкай Быстраю.
Маё цярпенне ў рэчцы ўтоне.
Скажы ты:
— Я масточак выстраю!

У спачуванне
рэчкі Простай.
Мяне лукой абніме Томба —
слязіна, праца,
тлум і стома.
А ты падоўжыш нашу ростань.

Паспачувае мне Граўжанка:
— З якой ты вёскі,
гараджанка?
На чарацінцы каля Грыўды
да сонейка зайграю з крыўды.

## *ДРУКАРЫ*

---

Нашы продкі,
паважна гамонячы,
жыта дбайна сеялі тут,
дзе Кузьма і Лукаш
Мамонічы
друкавалі Літоўскі Статут.

Абрамлялі яго ў пазалоту,
быў заказ у друкарні пільны,—
друкары высокага лёту —
скарбны княства
і бурмістр Вільні.

Канцлеру княства
Сапегу
на чысцюткім аркушы снегу
паказваў шрыфты-абновы
гравёр Грынь Івановіч.

* * *

Што забароненага я рабіла?
Мала над кнігай вочы сляпіла.
На вечарынкі хадзіла не з братам.
Не давярала сакрэтаў дзяўчатам.

Што неймавернага шчэ натвару?
Бульбу на кашу пераварý.
Колькі зацятых перасвару!
Крыўдную праўду скажу не ў пару.

Што прыгажэй зрабіць я магла б?
Чысценька я чарэнь падмяла б
венікам, звязаным з елчыных лап,
хлеба духмянага я напякла б.

## *ВЕРАС*

Маўклівае лона радзімы —
задумлівы верас.
Вымярзаў і гарэў,
але вырас і пахне...

Яшчэ раз
пакланіся яму,
пакланіся з маленства на вернасць.
Ён твае таямніцы не выдасць.
Куды ты слядочкі павернеш?

Падужэў у палях —
і зацесны матулін каптурык.
Можа, пойдзеш на ўласных нагах?
А можа, на штучных катурнах?
Будзеш вольны, як птах.
Будзеш смелы, разумны, культурны.

Толькі верасу пальцы
настрояць душы тваёй струны.

* * *

Ані святочнасці, ні навіны.
Дык уцякайма з табою адны
поплавам
хмаркам наперарэз
у векавечны загадкавы лес.

Да падвячорку схаваемся ў сплахнумы.
Сваркі начныя — каб яны спрахнулі.

Моўчкі паслухаем тут канапельку.
Што кідаць словы ў кут,
як у пельку?

Хай самалёты варочаюць глыбы
неба, аж нема лопаюць шыбы
не абагрэтай суседчынай хаты,
дзе пасяліўся конік стракаты.

## *ПАРОЗНА*

Аніякай лучнасці паміж намі.
Адгавеемся шчырасцю на сутонках.
Пасмакуем гаркоты.
Хрустака з тваёй торбы адкусім.
Падзелімся патаемным.

Слухаю словы,
п'ю беспрадонне вачэй,
лашчуся каля душы,
нібы каля крушніцы-печкі.

Кшталты натуры маёй ты смакуеш,
аднак не п'янееш.

Колькі ў душы прыхавала
дабрыні, міласэрдзя, даверу, цяпла!
Што прыдбала, тым падзялюся.
Што згубіла, аб тым памаўчу.
Ніякіх папрокаў.

Процьму знайду і растрачу —
няма перад кім пахваліцца.
Сяброўкі памерлі...
Ад начальнікаў, ад начальніц
заслоны не маю.

Шчырая праўда — без мяне ты ніхто.
І лухта несусветная.
І ніякага шчасцейка мне без цябе —
адгасцявала, адшчасціла, адсвяткавала.
Ды ад шчасця ні плёну, ні клёку.

Праз гадзіну,
на досвітку,
ранкам сугранным
ты пакінеш мяне, я паплачу —
раўгеша.
Засну і прысню, што памерла.
Жыццё без цябе, як нябытнасць.

Прачнуся — паплачу ізноў
ад шкадавання матулі.
Горам дачкі гарапашная маці.

Сэрцам шляхотным спагадаць буду ўсім,
у падушку самотна,
не на плячы буду плакаць.

Сэрца шляхотнае лепей,
чым сто дваццаць сем песень,
ды яго не адчыніш зусім.
Уласным болем захоплены кожны.

...Хацелася знікнуць між глею
ці ў хвалях прадоннае рэчкі.
Жанчын успаміны не грэюць,
выстуджваюць цела дарэшткі...

Словамі, словамі, справамі
запоўню пустэчу, адсутнасць тваю,
о Нёман адхлання майго,—
павярнуся да Нёмана смерці.

Як пра чужога падумаю — дзе ты цяпер:
ведаць — не ведаю,
бачыць — не бачу,
уявіць — не ўяўляю
замглёнай тваёй маладосці.

І не шкада мне ўжо яснага дня,
лагоднага сонейка,
нават зажураных рэк,
нават сваёй прыгажосці.

З'явіўся і знікнуў, як промень...
Ды ранкам сама прападу я:
за Гаўяй схаваюся ў Нёман.
Мне шчасця Радзіма шкадуе.

Дзве ракі з аднолькавай назваю Гаўя
ўпадаюць у мора.
Але беларуская Гаўя
спачатку ўпадае ў наш Нёман.

Пясчанае дно нашай Гаўі,
як вочы людзей беларускіх,—
празрыстае, зеленаватае.

Глістае дно Гаўі латгальскай бурштынавай —
двомістае.

Берагі нашай Гаўі —
лагодныя, плыткія, дольныя.
Заплюшчыўшы вочы хадзі,
абнімайся са жвірам.

Каўзлівыя сцежкі гарыстых суклонаў
латвійскай бурштынавай Гаўі
не кожны асмеліцца мераць.

Тутэйшы мужык, нібы з яйка
сягоння і вылупіўся.
Спяшаецца, нібы мядзведзь за вераб'ём.
Баіцца рахманай жанчыны...
Ды вецер хіба закілзаеш
між дзвюх частаколін?!

А тамака — жонкі
законных сваіх мужыкоў
крынічнай вадзіцаю з нейкай пячоры
з рукі сваёй пояць —
і прысушваюць іх аж да скону.
А самі гуляюць, як хочуць.
Ці гэтак папраўдзе,
ці на адвод вачэй —
нацыянальная таямніца.

...Любоў мая гоіць мяне,
нібы Гаўю крынічкі.
Як трэба, вазьмі маё сэрца,
а сам незалежным застанься.
Як Гаўя ўтапіцца спяшаецца ў Нёман,
аднак ад любві не прапала...

...Схавацца хачу за імёны.
Хай свет на мяне не зважае.
Знікаю ў натоўпе — чужая.
А ты мяне знойдзеш — зніклёны...

## *НА АРЭШЧЫНЫМ ГАНКУ*

---

Ноч перайму на Арэшчыным ганку
рэхам апошняй далёкай сваячкі.
Ноччу ў самотную Гараднічанку
знекуль вярнуліся дзікія качкі.

Ноч адмывалі крынічку ў калюжы —
вольныя, дзікія, сытыя воляй.
Пагагаталі і зніклі, як душы.
Холад застаўся. Не вернуцца болей?!

Ды прылятаюць, як зробіцца цёмна...
Дзікая рэчка — ні выйсця, ні броду.
Дзікія качкі гагочуць бяздомна.
Дзікія душы ніякага роду.

*КОНІК ГНЯДЫ Ў ЯБЛЫКІ НАВОРВАЕ БУЛЬБУ.*
*ЯКУЮ КАПАЮ.*
*ЯКУЮ НЕ САДЗІЛА...*

---

Думаю: «Божа мой, Божа!..
Дні прападаюць у сне.
Як бы жыла я прыгожа!
Конік вазіў бы мяне.

Як жа ты там да відзэнька
зоркі згрызаеш з расы?
Косю мой, косю гнядзенькі,
згрыз ты мае дзве слязы.

На здратаваным гасцінцы
каля халодных магіл
яблыкі ў косі на спінцы
хай не закоцяцца ў пыл.

Лепшую долю з-пад пылу
выцягнуць можна было б...
Косю ты, косю мой, мілы,
цёплыя губы і лоб».

* * *

---

Птаху Максіме!
Твой конік, агністае крылле!
Божая воля стагоддзяў у вас
за спіною.
Вы ж падніміце мой смутак
з усёй даўніною...
Вырвіце з пекла,
якое тут людзі стварылі.

Тут, у забытым кутку,
я зраўняна з усімі,
з тымі, хто вусны паганіць
малітвай чужою.
Тут да цябе прытуляюся
сумнай душою,
Брат, непрызнаны Касцёлам,
Апостал Максіме!

## *ВОСЕНЬ*

---

Вяжу сукенку на жыццё або на смерць.
Пакуль жывая, цепліцца надзея,
што нехта на мяне яе надзене...
Шчэ сілы ёсць самой сябе раздзець.

Пайшлі адсюль ніякія сябры.
Смерць не прыходзіць — ёй кутка не маю.
У тым гаі галінак наламаю.
Хай на камінку
шэпчуцца вятры.

Было і ўлетку горкай смакаты,
дзён-пустацветаў, выдуманай цноты,
бяссоннай, беспатольнай адзіноты...
Тут пастаю — пад абразом святым.

* * *

---

Я адаб'юся ў крыніцы —
крыніца пяе.
Людзі паўсюль чужаніцы,
азёры свае.

Возера, возера, сэрца,
лёд — глыбіня.
Горача. Тут маё месца.
Нібы жабяня...

Сцішыць, загоіць балячкі.
Добра цяпер.
Шэрыя дзікія качкі
плывуць у аер.

## *СВІЦЯЗЬ*

Так мяне вабіць світаннем да Свіцязі,
толькі ў самоце, не з цэлаю світаю...
Свіцязь накрыць тумановаю світкаю...
Світку стагоддзі тутэйшыя выткалі.

Што на зямліцы нядолю піць шклянкаю,
лепей на Свіцязі стаць свіцязянкаю...
Блiснуць луской, срабрыстым уборам,
і растварыцца са Свіцяззю-морам.

* * *

---

Хмурынка сумная воселкам
каляровай вясёлкі памахала.
Сёння я сасонцы над возерам
дождж перачакаць дапамагала.

Памаўчалі дзве беларусачкі.
Самы час займацца гаварыльняй.
Недзе над спрадвечнай вольнай Вільняй
адгукнуліся хмаркі-гусачкі.

Зажурыліся думкі-лябёдкі,
што няма прыемнай работкі.
Не яны ў сваім краі звеставальніцы.
А пакутніцы...
ды неўладкавальніцы...

* * *

---

Мяне ніхто ніколі не кахаў
і не любіў ніхто мяне.
О Божа!
Чаго ж я выйшла ў гэта бездарожжа,
дзе не было ў мяне ніякіх спраў?

Згрызота, смутак,
холад і зіма,
маркота, змрок — такая завядзёнка...
Была ў мяне адна сяброўка Бонка...
Памерла...
І нікогачкі няма.

* * *

У бярэзніку з восеньскіх сноў,
з яснаты
паўсмяротныя раны
з малітвай залізваю.

Дым дыму ўсё, дым,
замутненне змыслу.

Дзе ў зямельку правальваецца
небасхіл,
як жабрачка, скідаю
здрабнелыя члункі.

Пыл пылу ўсё, пыл
і знішчэнне думкі.

* * *

---

Ну, хопіць мне прыдурвацца дурніцаю.
Нару змяніла. Там застаўся страх.
Прывыкла абыходзіцца драбніцаю.
Каб толькі рукі не трымаць па швах.

Вам добра гнуць мяне галінкай ніцаю,
упартай школьніцай у кут стаўляць,
глядзець, нібы сталіца на правінцыю,
абы пра што, але паразмаўляць?!

* * *

---

Болей не будуць
салёныя слёзы
сонейка засціць.
Мне адзінота
дадзена лёсам —
вось маё шчасце.

Выйшла ў свет белы,
скрыўлены болем,
жыць, а не красці.
Доля мая
дараваная Богам —
вось маё шчасце.

Скончыцца шлях,
дожджык смутак залечыць,
сонейка гляне...
Восені пах,
цішыня і галеча.
З мёртвых паўстанне.

Проста ўсміхаюся
соннаму небу —
што ў гэтым злога?
Выйду ў свет белы
сказаць каму-небудзь
ціхае слова...

* * *

У вёску ніхто не едзе.
Тут і згубіцца найлепей.
Мяне пашкадуе вецер.
Мяне ажыннік зачэпіць.

Што згіну тут — памыліўся
мой геній, птах беспрытулля...
Тут увесь род мой згубіўся.
Тут Гаўя — рака-матуля.

Ва ўрослай у землю хатцы
складу саламянае крылле.
Тут я пачну сустракацца
[illegible] мужам, які ў магіле.

* * *

Села спадыняй за стол
у абтрапаным халаце
старасць у біскупскай хаце,
з хатай улазім у дол.

Сэрца пустое маўчыць.
Час запыніўся — нядужы.
Дрэвы на восеньскай сцюжы
закачанеюць у крыж.

* * *

Дзве баразёнкі ў лесе —
нехта праз лес паехаў.
Дзве сарокі на стрэсе...
Мусіць, паехала стрэха.

Нясу па дарозе стому...
Прывыкла быць некаханай,
не ўсцешанай, не успамаганай
і не патрэбнай нікому.

Бліснула золата ў смецці.
А закаханыя ў стозе.
Птаха ў кусце пры дарозе.
А закаханыя ў смерці.

* * *

---

Наш маэстра пакуты схаваў ад людзей
пад падушку ў пакоі, дзе мышка скрабе.
Наш маэстра касцюма ў труну не надзеў.
Смерць яго не дастала, завязла ў трубе.

А нічога сабе атрымаўся дуэт —
мышка ў норцы на лютні, у коміне — смерць.
Асвятляючы цемру святлом цыгарэт,
наш маэстра навучыўся другіх разумець.

* * *

Нізка звіслі хмары дажджавыя.
Глуха ў коміне віхура вые.
Ад сябе не маеш абароны.
Мы з табой — дзве белыя вароны.

Стала нічыім чужое войска.
Хлопцы свойскія ды дзеўка свойска.
Выбары. Законы. Забабоны.
Мы з табой — дзве белыя вароны.

* * *

---

Як яны з'яўляліся на маіх вачах,
так яны знікалі на маіх вачах.
Іх не куля даганяла,
не канвой сцярог...
Хто ў Амерыку паехаў,
хто ў калгасе здох.

## *ПРА АВЕЧАК*

Шкадаваць таго прыблуду,
хто хаваецца між люду,
як баран у той аўчыне,
нібы служачы айчыне?!

Хто народу, як падпаску,
робіць шкоду, нібы ласку,
вучыць зноў дзяліць пароўну —
як авечак, так і воўну?!

А браты з дурной Расеі
зноў сядзяць, як на вяселлі,
зноў крадуць яны авечак —
з вёскаў, фермаў і мястэчак.

Кепска жыць з такім анельскім,
жвавым, правым, прыяцельскім,
з цэлым людам, з цэлым краем,
калі ўласны гонар маем.

* * *

---

Таго, хто больш трываць мяне не можа,
але трывае,
Найсвяцейшы Божа,
не адпускай,— ні ў чым не вінаваты:
шукаў спакою — не са мной расплаты.

Калі падаў яму на цвёрды ложак
намазаны спакусай шчасця лісцік,—
дапамажы, о Непахісны Божа,
з жыцця майго па-людску неяк выйсці...

* * *

---

Гладзіць сасмяглыя вусны прырода.
Брак мне знаёмага сэрцабіцця.
Гэта, як гледзячы збоку, прыгода
мусіла стацца падзеяй жыцця.

Божа, прымі майго сэрца благанне —
бачыш, згараю ў мілосным вагні.
Не вызваляй ад зямнога кахання!
Божа, мне грэшнага хлопца вярні!

* * *

---

Погляд шматзначны прагны,
кінуты ў мае вочы,
злоўлены доўгім паглядам,
нібыта неасцярожна...
Ах, якая раскоша
усё прадчуваць бязбожна —
схаванае ў нагавіцах,
гатовае ў прорву ўскочыць...

Добра ўсім прытуляцца
на імховай палянцы,
на стракатай маланцы
ды на духмяным сенцы...
Колькі ж уцехі ўсмешкай
нявіннаю наталяцца?
Вочы мае не валодаюць
талентам экстрасенса.

Асепленыя жаданнем,
жадаем слепнуць яшчэ раз...
Ноч з табой — марцыпаны,
дурман... мо гашыш на дне...
А дзе ж пашукаць адхлання,
апроч твайго гнуткага цела?
Ведаю, птах вандроўны,
пакінеш хутка мяне...

*ДАРУЙ*

---

Ты думкі чытаеш —
прызнаюся шчыра:
блюзнерствам грашу
гэтак доўга, мой Пане.
Пакуль у жанчыны
не знішчана шыя,
не толькі на Бога
ў яе спадзяванне.

Даруй, Найсвяцейшы
адзін Абаронца,
пакуль раўнадушша
і здрада кругом,
яшчэ спадзяюся
на дужага хлопца,
што ён мяне збавіць
цялесным грахом...

* * *

---

Кожны ўдае сам сябе за героя,
іншага лічыць за самазванца.
Мова пакуль што адзіная зброя —
не наступаць, але адбівацца.

Кліча хлапчына белагаловы:
— Пойдзем на сёмае неба, Марыся!
Крылле ў каханых з наіўнае мовы.
Зазімавалі — і засталіся...

з вершамі, поўнымі вечнага смутку,
ціха схаваліся ў родным закутку.
На сёмым небе, на аблачыне
вершы рыфмуе хлопец дзяўчыне.

* * *

Ну, нарэшце горкаю слязінай
сцерла з сэрца памяць маладую.
Гнуткаю балотнаю лазінай
я балотных вужыкаў гадую.

Андаракі, станікі,
кашулькі,
споднікі,
кафтанікі ў рагулькі,
ручнікі,
дзяружка, вышыванка,
фартушок,
абрўсак-самабранка...

Пацеркі, пярсцёнкі,
завушніцы.
Ягады ў збаночку паліваным.
Зноў салодкі сон, як у сініцы.
Зноў мне сніцца хлопец маляваны.

* * *

---

Скончыцца зёлак сушэнне.
Скончыцца ведзьмаў забава.
Ноччу няма суцяшэння.
Холад. Хвароба. Няслава.

Месячык возьме ў арэнду
сэрца — сагрэць апаўночы.
Зноў спапяляюць дашчэнту
трупаў вясёлыя вочы.

Холад пранізвае шчыры
люду тутэйшага спленне.
Мёртвыя плечы мужчыны.
Мёртвыя сцены скляпення.

## *ХВАРОБА*

Лекар Міхал, пакіньце, малю:
неспакою не зняць даланёю.
Называюць хваробу маю
па-вясковаму ў нас дабрынёю.

Ад хранічнай хваробы дурной
непаладкі, турботы і беды.
Ёю мучыцца род наш даўно —
ад прапрадзеда-дзеда.

Пра бабуляў маіх не пытай:
і па маці, і ў бацькавым родзе
маладымі спяшаліся ў рай
з невылечнай дброці.

Тут усе гэтак — сват і сусед —
палюбоўна ядуць сябе самі.
Буду жыць, аж пакуль на той свет.
І паціху лячыцца слязамі.

* * *

---

Таямніца ды ў паэткі...
Чулі-ведалі суседкі.
Жаўтадзюбыя падлеткі.
Слухачы-марыянеткі.
Шафкі, тумбачкі, банкеткі.
У збанку сухія кветкі.
Выпадковыя адведкі...
Не натхненне піць — таблеткі.

* * *

Лятуць з нябёсаў зорачкі-znічкі,
спаткі кладуцца ў стог.
Пайду на луг пазбіраць медунічкі —
іх жа пасеяў Бог.

Збіраю гэтыя Божыя слёзкі,
шнурочкам вяжу ў снапок.
І хай кладуцца дні, як пялёсткі,
ў нагрэты зоркамі стог.

* * *

---

Глухая цемра наўкол,
поўная цемра, як вока.
Нават няпрошаны госць
не стукне ў маё вакно.
Спадаюць зоркі на дол
стамлёна і адзінока
напомніць, што неба ёсць,—
самотнае і адно.

Прачнулася ў пяць гадзін
у змоўклай ад сну хаціне,
спагады ціхай жадна,
сама не ўспомню — чаго...
Тут Бог спадарыць адзін.
Няўжо ён мяне пакіне?
Выходзіць, я не адна,
бо я — дачушка Яго.

## *ДА МАТКІ БОСКАЙ ВАСТРАБРАМСКАЙ*

Завулкі Вільні ў вячыстай скрусе
шарэюць на шарачку.
Вітай, Заступніца Беларусі!
Прымі пілігрымку-дачку.

Па сходках лесвіцы ружанцовай
прыношу з лідскіх дарог
тугу малітвы простай мясцовай,—
даруй наіўноце, Бог.

Не кветкі — болькі ў снапок збіраю
да чыстых тваіх павек,
Заступніца ўсіх недалэнгаў Краю,
Заступніца ўсіх калек.

* * *

---

Прасцёр, нарэшце, Бог высокі
у бок людзей сваю далонь.
З нябыту скочыў пад аблокі
жалезны вершнік, белы конь.

Наш люд прыгожы анямелы
ўзнімае вочы да нябёс:
там зззяе бел-чырвона-белы
штандар, нібы Ісус Хрыстос.

*Верасень 1991 г.*

* * *

Сумны гасцінец прылёг на зялёным каберцы.
Тут усёй вёскі мінулае, як на паперцы.
Сосны...
Маўклівыя вочы...
Маўклівыя сэрцы...

Божы Анёлак, Адам і Франуся,
Вінцук і Кастуся!
Вы не пазналі?
А я ж — ваша ўнучка Дануся.

Тут, сярод вас,
анічогачкі ўжо не баюся.

## *СНІЦЦА МНЕ ХАТКА*

Сніцца мне хатка,
нізкі парожак,
Бог не застрэміць
стомленых ножак.

Носік там грэе
Бонка старая,
тая, што ў раі
кветкі збірае.

Сонейка ў поўдзень
ткнецца да клямкі —
сонныя вочы,
носік у плямкі.

Нейкі вандровец
глядзіць вінавата.
Твар не паголены...
Гэта ж мой тата.

## *ПАВУЧОК*

Прытуліў мае плечы, сцёр слёзы са шчок
плот амшэлы, які абнімае хаціну.
А з дзіравага плота вязе павучок
у маю безнадзейнасць
драбніцу-навіну.

Пахадзі па маіх спрацаваных руках,
па шурпатых маіх апастылых каленках.
Як і ты, я амшэлага плота дачка.
Ты надзею вязеш, як бывала, маленькай.

Мы абодва вяртаемся з цёплых дарог
у тупік, ад якога мінулае свеціць.
Я скалечана верай ў людское дабро.
Ды не цешуся думкай, што блізка да смерці.

Прыпадаю да дзічкі, да роднай душы,
прытуляю да сэрца мураўкі ахапку.
Тут мае вераб'і і мае мурашы.
Павучок падае мне шурпатую лапку...

* * *

---

Ад нараджэння тут балелі косці.
Тут не на полі прайгравалі бітву.
Сказаныя на смерць...
Вось і зайздросцім
шалёнай кулі з аўтамата
і нябыту.

Ды не ўдалося ўсім зараз панішчыць.
Не ўсіх братоў браты закатавалі.
Марудна ў муках з мёртвых паўставалі.
Вярталіся ізноў на папялішчы.

* * *

Як не знайшлі мы месца прытуліцца,
нас адарвала бурай ад зямлі...
То кварту горкага пітва налі!

Адну гаркоту піць — не наталіцца...
А мы шукалі страчаныя дні.
Мяне ад забыцця абарані.

Цяпер-то мы шчаслівыя ў гуморы —
у сне мы перабраліся на зоры,
тут веюць скразнякі з усіх бакоў,
ды мы ўжо не баімся скразнякоў.

## ПАСЛАННЕ Ў РЫМ
## ІГАРУ ЛАШУКУ

---

Ойча Ігар, не вяртайся ў родны край,
тут Пан Езус памірае на крыжы.
Каля Бацькі зерні думак засявай.
Каля Бога нам сябе паберажы.

Ойча Ігару, ідзе твая даброць
светлай хваляю між поўнай цемнаты.
Толькі сам пакуль мяжы не пераходзь —
пасткі ставяць тут на ўсіх
такіх, як ты.

Гэты край — суцэльны вогненны прагон,
дзе чарцей скідае Міхал Арханёл.
Ты маліся там, каб выйграў бітву Ён,
каб вярнуліся Анёлы ў наш Касцёл.

## *БЯРОЗА*

---

Снежная пустэча.
Бель у вочы коле...
І адна бяроза —
вартаўніца поля.

Легкадумны вецер
між галін смяецца,
хоча запалоніць
белакосай сэрца.

Хоць бярозу вабіць
ў даль начную зорка,—
стыне, не пакіне
роднага пагорка.

## *МАРЫЯ*

Марыя!
Над галавою самотнай маці
святых бялюткіх анёлаў крылле.
Усё яе будзённае шчасце
Тваё імя святое — Марыя!

Марыя!
Тут, у зласлівых навідавоку,
у іх няшчырасці эйфарыі
малітва нас выводзіць са змроку,
малітва да апякункі Марыі...

Марыя!
Страсае вецер з ялін іголкі.
Бор аддаецца Тваёй абароне...
Твае бялюткія два анёлкі
цалуюць маці самотнай скроні...

* * *

Знасілі транты і шмаццё.
Не наракаем на жыццё.
У скрынях кончыўся запас.
Затое неба ёсць у нас.

Прывыклі — божыя сіроты —
да папіхання і самоты...
Апошнім дзелімся з людзьмі,
даверныя, бы дзеці, мы.

## *ТУТ ЛЫЖКІ, МІСКІ*

---

Тут лыжкі, міскі, кубкі ад вячэры...
Бязладны вэрхал скрэмзанай паперы...
Нібы разліўся чэмер-чэмергес...
Напэўна, Чобат да яго далез.
Здаецца ж, зранку прыхавала ў ранец...
Ды ладна ўжо...
Далей скачы свой танец
на пятках... Так на верш наводзіць глянец
пакінуты Дануцік-афрыканец.

## *ЭПІТАФІЯ*

---

Тут жыла паэтка —
голая штыкетка...
Суткамі карпела,
ды пісаць не ўмела...
Рыфмавала вершы
пад званы на вежы,
у шуфлядзе мышкі
укладалі кніжкі...
Елі мышкі кніжкі
без ніякай меры,
ім балелі кішкі
ад сухой паперы...

## *ГРОДНА,*
## *АРЭШКІ, 17*

---

Тут я чую нейкі бразгат-скробат.
Так залазіць у кантору Чобат...
Хто ж так адчыняе пяткай дзверы?
Чобат... Ён — яцвяг, тутэйшай веры...
Па-сяброўску ён займае крэсла,
гэта крэсла за жыццё растрэсла!
Тут ламаюць дзверы графаманы...
Чобат з імі добры, нібы п'яны...
Распранае... Вучыць іх пісаць...
Зрэдку ўспамінае «тую маць»...

## *ВОКНЫ ПЕДІНСТЫТУТА ЗАЎСЁДЫ ГЛЯДЗЯЦЬ У ВОКНЫ ЭЛІЗЫ АРЭШКІ*

---

Гэта ж у тым памутнелым акне
Яснае сонейка грэла мяне.
Шмат было выліта слёз і дажджу,
Я ўжо ў акенцы насупраць сяджу.

Некалі тут Гаспадыня была.
Дровы ў камінку згарэлі датла.
Усе яе мукі пакрыла імгла...
Я за жыццё гэты брук перайшла.

# МАЛІЦЦА СА СВЯТЫМ ФРАНЦІШКАМ З АСЫЗУ (1182—1226), ЯКІ ПРЫ ЖЫЦЦІ НАЙБОЛЕЙ БЫЎ ПАДОБНЫМ



ДА ЕЗУСА ХРЫСТУСА

## *СОНЕЧНАЯ ПЕСНЯ СВЯТОГА ФРАНЦІШКА З АСЫЗУ, АБО ПАХВАЛА ТВАРЭННЯЎ*

---

Найвышэйшы добры ўсемагутны Божа!
Ты праўдзівы, адзіны, хвалы і гонару варты,
будзь прывітаны людзьмі,
якія нават не заслугоўваюць,
каб вымаўляць Тваё Святое Імя.

Будзь прывітаны, Мой Пане,
тварэннямі Тваімі:

будзь прывітаны Братам Сонцам,
якое дзень нам прыносіць,
якое ёсць найвышэйшым Тваім Тварэннем —
бо гэта Ты саграваеш нас промнямі сваімі.

Будзь прывітаны, Пане, Месяцам-Братам,
хто слухмянымі зоркамі асвятляе чыстае неба.

Будзь прывітаны, Пане, Братам Вятрыскам,
які гоніць хмары
і кожнай парой прыносіць пагоду.

Будзь прывітаны, Божа, Вадой-Сястрыцай,
смачнаю, чыстаю, паслухмянаю,
гаючаю і жывою.

Будзь прывітаны, Божа, Братам Агнём,
ясным, вясёлым, высокім і залатым —
светам у цемры.

Будзь благаслаўлены, Божа,
праз сястру нашу
Маці Зямлю,
якая накорміць і пахавае,
падорыць плёны свае,
суцешыць квітненнем зёлак.

Будзь пахвалёны, Божа,
тымі, хто дзеля Тваёй Любові
прабачаюць усё ўсім
і зносяць няўтульнасць выгнання;
благаслаўленыя Табой — зносяць спакойна;
благаслаўленыя Табой
праз Цябе будуць надзеленыя ласкай.

Будзь прывітаны, Пане,
сястрой нашай Смерцю Цялеснай,
якой не пазбегне ніхто.
Дрэнна паміраць у муках смяротных —
а каго даганяе Смерць у Найсвяцейшай
Волі Тваёй,
таму крыўды не чыніць!

Хваліце і праслаўляйце Бога, нашага Ўладцу!
З вялікай удзячнасцю Богу служыце!

## *ПРЫВІТАННЕ МАРЫІ*

---

Будзь прывітаная, Мудрасці Валадарка!
Хай Цябе Божа бароніць
з Тваёй сястрой —
Прачыстай Святой Наіўнотай!

Пані Святое Абагаўленне!
Хай Цябе Божа бароніць
з Тваёю сястрой —
Святою Пакорай!

Спадарыня Чыстай Любові!
Хай Цябе Божа бароніць
з сястрой Паслухмянасцю поруч!

Усе найсвяцейшыя Цноты,
хай Вас Бог крые-ратуе —
ад Бога ж пачатак бярэце!

Няма ва ўсім свеце
ніводнага чалавека,
які мог бы валодаць
святой чысцінёй хоць адной
без дачаснае смерці...

Хто мае адну, а іншым не запярэчыць —
той валодае ўсімі.
Хто запярэчыць адной —
не мае ніводнай і ўсе парушае.

Кожнага ў сорам уводзяць
чужыя грахі ды заганы.
Святая Мудрасць уводзіць
у сорам шатана
з яго апраметнай.

Святая Наіўнасць уводзіць
у сорам усіх мудрацоў
і разумнікаў свету.

Святое Абагаўленне уводзіць
у сорам усю мітусню,
прагавітасць і скупасць.
Святая Пакора уводзіць
у сорам людзей ганарыстых
і свет ганарлівы.
Святая Любоў уводзіць
у сорам усе спакушэнні,
усе цялесныя жахі.
Сястра Паслухмянасць уводзіць
у сорам цялесную прагу,
трымае натуру ў пакоры,
каб Духу служыла,
была паслухмянай з людзьмі ды звярамі...

Ніхто цябе не пакрыўдзіць і волас твой не ўпадзе,
калі не захоча Пан Бог!

## *ПСАЛЬМ I*

---

Клічу Пана ўголас, благаю да Пана!..
Малітву ўтвараю перад Аблiччам Яго,
апавядаю Яму пра мукі свае...

Калі дух пакінуў мяне,
шляхі мае ведаў Ты.
Ды калі па дарозе йшоў,
сытыя паставілі пастку.
Азірнуўся і бачыў —
і не было нікога, хто пазнаў бы мяне.
Не паспеў уцячы —
і ніхто не ўратуе мяне.

За Цябе зношу ганьбу,
сорам на твары маім.

Стаўся чужым братам маім,
чужым сынам маці маёй.

Святы Ойча,
спальвае мяне
замілаванне домам Тваім,
а знявагі тых, хто з Цябе здзекуецца,
сыплюцца на мяне.

Задаволеныя — збегліся, наслалі кару,
а я і не ведаў.

Больш іх, чым валасоў —
хто без прычыны ўзненавідзеў мяне.

Узмацаваліся ворагі,
абгаварылі несправядліва —
і аддаў ім тое, чаго не рабаваў.

Паўсталі нягодныя сведкі,
дапытваліся
невядома чаго.
Плацілі злом за дабро
і зневажалі за дабро, што рабіў.

Ты, Найсвяцейшы Айцец Мой,
Збавіцель Мой,
Божа Мой!
Прыйдзі і дапамогай,
Божа Ясны, Мой Збаўца...

## *ПСАЛЬМ II*

А вы ўсе, хто праходзіце міма,
звярніце ўвагу, паглядзіце самі,
ці ёсць яшчэ такія болесці, як мае!

Бо напала на мяне сабачая зграя,
захапіла мяне банда злачынцаў.

Яны ж абступілі і прыглядаліся да мяне,
падзялілі маю вопратку,
кінулі жэрабя,
каму адзенне маё данасіць.

Раскрылі пашчы свае, як ільвы,
ірваліся да мяне з рыкам.

Стаўся выліты — як вада,
рассыпаліся косці мае.

І сэрца сталася падобным
да растопленага воску ў целе.

Сіла высахла, як лупіны,
язык прысох да паднябення.

І есці мне жоўці далі,
піць захацеў — воцатам напаілі.
І сцерлі мяне ў мёртвы прах,
і вышэй цярпення ўзмацнілі боль ранаў.

Заснуў і паўстаў —
і Айцец Найсвяцейшы Мой
прыняў з хвалай мяне.

Айцец Святы маю правую руку ўзяў
і прыняў з хвалай мяне
праз добрасць сваю.

Што атрымаў на небе?
Чаго хацеў ад Цябе на зямлі?

Глядзіце, глядзіце — кажа,—
стаўся я Богам
і ўзвышаюся над людзьмі,
над светам.

Благаслаўлены Пан Бог Ізрайля,
які адкупіў душы слугаў сваіх
найсвяцейшаю крывёю сваёй.
І не пакіне нікога, хто паверыў у Яго,
і ведаем, што прыйшоў,
што прыйдзе
судзіць справядлівасць.

## *МАЛІТВА*

---

Далучы мяне, Божа, да волі Тваёй,
да любові Тваёй,
да святла Твайго,
сеяць дазволь дабрыню ў зласлівыя сэрцы,
з ласкі Твае дазволь выбачаць тым,
хто ненавідзіць Цябе,
і памірыцца з ворагамі Тваімі.

Дазволь дарогу тым паказаць,
якія заблудзяць,
вывесці тых да святла,
хто ў цемры,
умацаваць веру ў тым,
хто сумнявацца ў Табе пачаў.

Накіруй мяне знайсці надзею тым,
хто ў адчаі,
хто ў скрусе —
адхланне таму прынесці.

Памажы, Божа, не сабе шукаць суцяшэння,
а іншым знаходзіць,
не павучаць ганарліва,
а з цярплівасцю слухаць людзей.
Надзялі любоўю да тых,
якія мяне не любяць...

О, Божа!
Аддаючы, мы вяртаем.
Сябе забываючы, сябе знаходзім.
Іншым даруючы, прабачэнне маем.
Далучаемся да жыцця вечнага,
калі паміраем...

*ЗМЕСТ*

СПАТКАННЕ



СВЕТЛАЕ І ЧОРНАЕ

ВЁСКА. ГАЎЯ І НЁМАН...

У ГОРАДЗЕ

У АДНОЙ ХАЦЕ

МАЕ НАІЎНЫЯ БАБСКІЯ ВЕРШЫ,
ЯКІХ НЕЛЬГА ПАПРАВІЦЬ, НАПІСАНЫЯ Ў ТОЙ ЧАС,
ЯКІ ЎЖО НЕЛЬГА ПАПРАВІЦЬ, СЯРОД ТАГО НАРОДА,
ЯКІ ТАКСАМА ПАПРАЎЛЯЦЬ ПОЗНА...

НА АРЭШЧЫНЫМ ГАНКУ

**Бічэль Д.**

Б67 Снапок: Выбраныя вершы.— Мн.: Маст. літ., 1999.— 446 с.

ISBN 985-02-0239-4.

У кнігу выбранага «Снапок» укладзены вершы з адзінаццаці зборнікаў. Паэтэсе ў жыцці пашэнціла на сяброўства з вялікімі жанчынамі Беларусі — Ларысай Геніюш і Зоськай Верас. У заходняй вёсцы Біскупцы ды ў другіх вёсках і мястэчках Гародзеншчыны яшчэ не высахлі крынічкі словаў і вобразаў, а Гародня спрыяе ўсё давесці да толку. Зборнік збіраўся шчыра і любоўна.

УДК 882.6-1
ББК 84(4Беи)6

Літаратурна-мастацкае выданне

*Данута Бічэль*

*(Бічэль-Загнетава Данута Іванаўна)*

*СНАПОК*

Выбраныя вершы

Рэдактар Г. В. Роліч
Мастак А. І. Цароў
Мастацкі рэдактар А. І. Цароў
Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова
Карэктар Л. А. Дзядзюля

Здадзена ў набор 30.03.95. Падп. да друку 15.12.98.
Фармат 70×90[1]/32. Папера друк. № 1.
Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 16,38. Ум. фарб.-адб. 16,52. Ул.-выд. арк. 11,07.
Тыраж 1500 экз. Зак. 1949.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку.
Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 19.11.97.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат
ВПП імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.